
Эдуард Швайко → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Марш → 8-9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 11 (3122) Год LXI | Беласток, 13 сакавіка 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





**Можна хадзіць на дэманстрацыі, сустрэчы, прысвечаныя роднай культуры і гісторыі, паказвацца ў вышыванцы, у канцы самому дзейнічаць дзеля захавання тоеснасці. Аднак некаторыя любоў да роднага праяўляюць у штодзённасці. Падыходу да жыцця спадарства Цацэркаў з Баброўнікаў не памянялі бурлівыя для прыгранічнай вёскі пасляваенныя падзеі, камунізм ці сучасныя абставіны. Іхні свет застаўся нязменны — гэта прывязанасць да сябе, родных Баброўнік і штотыднёвай „Нівы", якую выпісваюць амаль ад сарака гадоў.**



# Верныя «Ніве».
## Сафія і Міша з Баброўнік



### Па-за межамі Беларусі

Нарадзіліся яшчэ ў даваеннай Польшчы. Абое, хаця ў розных канцах вёскі, жылі ў даволі шматлюдных у той час Баброўніках. Як і ў большасці тадышніх мясцін, яўрэйскае насельніцтва было тут таксама прысутнае. Для ўласніцы крамы Гайчы, калі не было грошай, плацілі яйкамі.

— Мы мірыліся з жыдамі, — кажа Сафія Цацэрка. — Не было так, каб адны другіх ненавідзелі, абзывалі. Між сабою яны размаўлялі па-іхняму, але да нас звярталіся па-беларуску. Мы заходзілі да дзяцей Гайчы і разам гулялі. Хаця яны між сабой размаўлялі на сваёй мове, але наш сябар усё нам перакладаў на беларускую мову. Нават адна яўрэйка з Баброўнікаў выйшла замуж за беларуса. Вянчаліся яны ў царкве ў Гарадку. Толькі таму ўдалося ёй перажыць халакост. Усіх апошніх баброўніцкіх яўрэяў немцы вывезлі.

Нават пасля гібелі яўрэяў вёска надалей была шматлюдная.

— Пасля вайны тут жыло больш за пяцьсот жыхароў. Цяпер каля дваццаці, — кажа Міша Цацэрка.— Пару сем'яў у пасляваенны час перасялілася ў Беларусь. Баброўнікі, як і дванаццаць іншых вёсак ад 1944 да 1948 года знаходзіліся ў межах БССР. Потым, калі выпраўлялі граніцу, тыя ж вёскі апынуліся ў Польшчы.

Нягледзячы на савецкую прапаганду, а нават прымус, каб перасяляцца ў Беларусь, людзі засталіся на сваім. Яны не ўяўлялі сабе, што могуць быць пазбаўлены роднай зямлі. Нават калі саветы бралі на хітрасць, жыхары не даваліся. У вёсцы рабілі барыкады, а машыны, якія па іх прыязджалі, сустракалі з сякерамі.

— Тут была вайна, — успамінае Міша Цацэрка. — У вёсцы трымалі дзяжурства. Калі на мосце паявіліся саветы, сігналілі ў звон і ўсе людзі збягаліся з кіямі, з сякерамі і не дапускалі.

Пад канец чэрвеня 1948 года Баброўнікі перайшлі пад польскую адміністрацыю. Мяжа ўсталявалася на рацэ Свіслачы. Аднак граніца падзяліла не толькі людзей тае самае культуры — і тут, і там жылі беларусы — але таксама прыход і могільнік. Баброўнікі да 1948 года належалі да прыхода ў Цецяроўцы. Таксама блізкія жыхароў вёскі спачывалі на могілках за рэчкаю.

Нягледзячы на тое, што людзі засталіся па гэтым баку мяжы, не парвалі са сваёй беларускасцю. Наадварот, прыйшлося ім надалей адстойваць сваё.

— Тут у Польшчы на нас крыва глядзелі, — кажа Міша Цацэрка. — Пагранічнікі, калі пачулі беларускую мову, здзекаваліся над намі.

### З Баброўнікаў у горад

Сярэднюю адукацыю Сафія і Міша атрымалі ў горадзе Лодзь. Закончылі тэкстыльны тэхнікум. Там таксама выявіўся вакальны талент Сафіі. Хаця далёка ад родных Баброўнікаў, у Лодзі не парывалі са сваёй беларускасцю. Сафія з падляшскімі сяброўкамі спявалі ў беларускім калектыве.

— Я не саромелася сваёй мовы, — кажа Сафія Цэцэрка. — Нас там ніхто не чапаў, бо ў школе, дзе я вучылася, было шмат нацыянальнасцей: яўрэйкі, немкі, беларускі... А вось калі пачалі працаваць у Замбраве, на кожным кроку „кацапілі", калі мы загаварылі па-свойму.

У канцы Сафія і Міша вярнуліся на Падляшша. Тут пачалі працу на тэкстыльным заводзе ў Фастах. Адначасова Сафія спявала ў славутым калектыве „Лявоніха", які дзейнічаў пры БГКТ. Сёння Сафія з гордасцю паказвае „Ніву" са здымкам калектыву.

— Гэта семдзесят другі год, — успамінае Сафія Цацэрка, гледзячы на фатаграфію, — выступ у Гародні. Памятаю таксама канцэрт у Варшаве. Тады не хацелі пусціць нас са сцэны. Многа мы разам з'ездзілі. Нават калі перастаў дзейнічаць калектыў, мы ўтрымлівалі кантакты між сабою.

### Сорак гадоў з „Нівай"

— Ведаем з газеты амаль кожнага журналіста, які пачынаў працу дзесяткі гадоў таму, і тых, якія працуюць ад нядаўна, — дэкларуе пастаянны чытач „Нівы" Міша Цацэрка.

З 1970-х гадоў выпісваюць „Ніву". У іхняй хаце можна знайсці „Беларускія календары" ды старыя выданні тыднёвіка. З гордасцю Сафія кладзе на стол пажаўцелыя старонкі газеты, паказваючы свае любімыя тэксты.

— Я не магу жыць без „Нівы". Ад „а" да „я" — усё чытаем, — кажа Сафія Цацэрка. — Нам заўсёды ў пятніцу лістаноша прыносіць. Усё чытаю, усё мяне цікавіць.

Пра беларускі тыднёвік Цацэркі даведаліся ад Міхася Хмялеўскага, шматгадовага журналіста газеты. Ужо наступнага дня яны падпісаліся на „Ніву" на пошце ў Гарадку. З таго часу кожны нумар яны выглядаюць і чытаюць на адным дыханні ад пачатку да канца.

Чаго жадаюць „Ніве" з нагоды юбілею? Таго, каб 60 гадоў было не толькі магчымасцю падвядзення працы, але і нейкім пачаткам. Не хочуць, каб „Ніва" толькі існавала, але каб перш за ўсё развівалася.

### Хлопчык і „разрабячка"

Сужонства Сафіі і Мішы Цацэркаў было быццам бы наканаванае лёсам. Нарадзіліся ў адной вёсцы, хадзілі ў адну школу, узрасталі ў той жа самай культуры. Калі запытаць пра пачатак іхняй любві, Міша з усмешкай адкажа, што была з самага спачатку. Ужо ў школьныя гады насіў ранец Сафіі. Сустракаліся таксама ў час навукі ў Лодзі. Натуральнай паслядоўнасцю быў шлюб у царкве ў Мастаўлянах. Пачуццё Мішы і Сафіі гэта не такія аднасіны, да якіх мы прывыклі. Рамантычныя, шалёныя, якія не звяртаюць увагі ні на што. Яно даволі спакойнае, пяшчотнае, ненадакучлівае. Ён называе яе „разрабячкай", сябе — хлопчыкам, нягледзячы на пражытыя 80 гадоў. Іх сужонства ў старым стылі. Яны ў прысутнасці незнаёмых людзей не паказваюць сваіх пачуццяў, але паміж імі адчуваецца вялікая пашана і ўважлівасць. Відаць гэта ў тым, як яны могуць маўчаць разам. Калі яна расказвае пра нешта, ён не перапыняе, і наадварот. Мінулае аб'ядноўвае іх, спалучае і адрознівае ад іншых. Яны дакладна ведаюць сваю прошласць, прыгадваюць сабе ўзаемна прозвішчы, назвы мясцовасцей ды ўсе іншыя дэталі. Папаўняюцца. Гэта так, нібыта яны распрацоўвалі код узаемнага мінулага, які прывязваюць іх да кропкі, дзе яны знаходзяцца ў цяперашні час.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ





# Палярызацыя

У тэхнічных навуках шырока распаўсюджаны тэрмін „палярызацыя". Калі не ўдавацца ў дэталі, то гэтая з'ява агульна азначае працэсы і станы, звязаныя з падзелам якіх-кольвек аб'ектаў, пераважна ў прасторы. Тэхнічныя навукі напэўна пайшлі далей і глыбей гуманітарных і могуць дакладна і падрабязна раскласці ўсё, як кажуць, па палічках і шуфлядах. А вось як адбываецца палярызацыя светапоглядаў людзей — загадка яшчэ тая. У наш час гэты падзел яшчэ больш радыкалізаваўся, паглыбіўся і часта набывае крайнія формы. У звычайным побыце гэта азначае тое, што многія людзі, якія вучыліся ў адной школе, жылі ў суседніх пад'ездах, сябравалі дзесяцігоддзямі — сёння не могуць паразумецца ў асноўных поглядах на працэсы, якія адбываюцца наўкола. Некаторыя мае знаёмыя павыдалялі свае акаўнты ў папулярнай на постсавецкай прасторы сацыяльнай сетцы „Одноклассники", не вытрываўшы шквалу агрэсіўнага іншадумства ад сваіх сяброў і знаёмых. Неяк адзін мой прыяцель прызнаўся, што больш не ездзіць на традыцыйныя лютаўскія сустрэчы аднакласнікаў у школах: „Разумееш, — нібы апраўдваючыся, казаў ён, — мне проста няма пра што з імі размаўляць!". Ды што там аднакласнікі, ці студэнцкія сябры. У многіх сем'ях на глебе ацэны падзей сучаснасці даходзіць ад непаразумення да сапраўднай нянавісці.

Вельмі часта падзел ідзе паводле ацэны той ці іншай гістарычнай постаці. Прыгадалася мне, як больш дваццаці гадоў таму працаваў я ў музеі гісторыі рэлігіі. Прыйшоў неяк на экскурсію па экспазіцыі каларытны дзядзька, як выявілася прыехаў здалёк, дзесьці з Гомельшчыны. Прывёў на асвету свайго сына-школьніка. Якраз тады для ўсіх адкрывалася багата гістарычнай праўды. Я са сваім, амаль юнацкім максімалізмам, імпэтна пачаў выкладаць усё, што мог. Аднак, на тварах маіх слухачоў нарастала непаразуменне. Асабліва сумным стаў той дзядзька, калі я апавядаў гістарычную праўду пра тое, як расейскі цар Пётр Першы здзейсніў жудаснае злачынства ў Полацкім сафійскім саборы. Той наведнік быў жорстка расчараваны. Нічога ён не сказаў, але было відаць, што папросту не паверыў у гэты факт, а мая асветніцкая экскурсія пайшла пылам. Але не марна для мяне асабіста — напэўна тады я зразумеў, што відавочныя і бясспрэчныя факты людзі могуць бачыць зусім па-рознаму, альбо ўвогуле не верыць у іх.

Ужо здавалася б, якія могуць быць рознасці ў разуменні гістарычнай ролі таго ж Сталіна. Для нас відавочна, што гэта стваральнік жахлівай антычалавечай сістэмы, якая знішчыла мільёны людзей, скалечыла фізічна і духоўна некалькі пакаленняў. А вось ледзь не палова сённяшніх жыхароў Расеі станоўча ацэньваю яго ролю ў гісторыі дзяржавы. А ў Беларусі гэты культ таксама пашыраецца на сучаснасць — стварэннем усялякіх фальшывых і псеўдагістарычных „ліній Сталіна". Ну тых, хто кіруе такімі дзяржавамі зразумець проста — яны будуюць сваю ўладу менавіта паводле ленінска-сталінскай мадэлі. Але як зразумець тыя мільёны, якіх савецкая сістэма пераўтварыла ў вечных рабоў, людзей, пазбаўленых элементарнага — думаць сваёй галавой. Тут трапна некалі сказала наша гарадзенская паэтка Данута Бічэль: „Нічога вы ім не давядзеце і не растлумачыце, яны ж нарадзіліся сляпымі і глухімі". Ні то гены такія, ні то нейкія „чакры" не раскрываюцца, ні то нешта зусім іншае.

А калі на баку гістарычнай хлусні дзяржаўная прапаганда, раскол у грамадстве будзе толькі паглыбляцца, а нянавісць расці. Палярызацыю па лініях „сталіністы" — „ворагі народу", „лукашысты" — „пятая калона", „маскоўскія халопы" — „амерыканскія прыслужнікі", „Беларусь у Еўропу" — „русский мир" спыніць зараз надзвычай цяжка. Дваццаць гадоў мы ішлі, ці нас цягнулі, гвалтам у бок рэінкарнацыі змрочнага, здавалася б незваротна мінулага...

Але што рабіць пры сутыкненнях светапоглядаў, пры спрэчках знаёмых і блізкіх людзей. Алгарытм тут, мне здаецца, зусім просты. Калі перад вамі „клінічны" выпадак, „сцяна" — не трэба раскідваць духоўныя сілы. Як сказана ў Бібліі — „адвярніся і ідзі сваёй дарогай". Калі ж ёсць магчымасць хоць у нечым пераканаць суразмоўцу, трэба размаўляць, размаўляць, размаўляць. Прыводзіць простыя прыклады, тлумачыць „на пальцах". Бо кропля точыць і камень. Але галоўнае — не адказваць на злосць — злосцю, на хлусню — няпраўдай, на агрэсію — нянавісцю. Ад кожнага чалавека таксама нешта залежыць...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Працэнты

Палякі літаральна курчацца ад болю. У працэнтных адносінах больш, чым немцы ці беларусы. У той жа час адкрыта прызнаецца да гэтага толькі 36% апытаных людзей. Як з гэтага відаць, дух пакуты моўчкі і ў пакоры па-ранейшаму чэрпае моц са сваіх рамантычных і сентыментальных крыніц. Гэта не мяняе факту, што сярод еўрапейскіх краін, менавіта ў Польшчы фіксуецца самы высокі ўзровень успрымання болю. Ён ахоплівае аж 93% рэспандэнтаў. І калі вы згодны з патрыятычна-нацыянальным вызначэннем карэннага жыхара надвіслянскай краіны як паляка-католіка — дык боль захапіў польскае насельніцтва амаль на 100%, таму што праваслаўныя і лютэране, беларусы, украінцы, літоўцы і г.д., карацей кажучы, меншасці, у такім вызначэнні ніяк не змяшчаюцца. Тэарэтычна, значыць, польскае ўзмацненне адчувальнасці болю іх не кранае. Але гэтая тэорыя згодная з адным вызначэннем. Існуе другое, згодна з якім паляк гэта той, хто «з'яўляецца польскім грамадзянінам»! Цікава, што адсотак людзей, вызначаючых польскасць як грамадзянскасць, а не рэлігійную або нацыянальную адрознасць, у перыядзе 2005-2015 гг. вырас на некалькі адсоткаў. У той жа час традыцыйна рэлігійная прыкмета, каб «паляк быў католікам» — упала з 14 да 7 адсоткаў! Такім чынам, у крузе другога вызначэння боль кранае справядліва кожнага грамадзяніна, незалежна ад яго рэлігіі або паходжання.

Боль з'яўляецца грамадзянінам свету, што пацвярджаюць вынікі даследавання адной з самых буйных фармацэўтычных фірм, у рамках якога праведзены былі размовы з 7 тыс. людзей у 14 краінах на чатырох кантынентах. Па яго выніках Польшча апынулася ў перадавіках. Даследаванні тычыліся толькі ўспрымання фізічнага болю. Калі ўлічыць і духоўны боль, наша краіна, запраўленая рамантычнай традыцыяй, апынулася б на першым месцы. А маюць палякі над чым «балець» і то не толькі тыя, што апісаны «першым вызначэннем паляка». Дазвольце, што на гэты раз я не буду спасылацца на цяперашнюю палітычную сітуацыю ў краіне. Як ёсць, кожны гэта бачыць. Але не ўсе, хто з'яўляецца паслядоўнікам «першага вызначэння», бачаць яе добра. Гэта не азначае таксама, што ўсе, хто бачаць яе кепска, знаходзяцца ў «другім вызначэнні». Гэта пытанне індывідуальнага толку. Іншая справа, што звычайнага розуму ў нашай краіне з году ў год усё менш і менш. Прыкладам няхай будзе заканадаўчая перавытворчасць, што ў мяне асабіста выклікае страшны фізічны і ў той жа час духоўны боль. Хачу адзначыць, што гэта не інцыдэнтны боль у сувязі з кіруючай уладай. Гэта хранічны боль. У 2012-2014 гг. у нашай краіне ўступіла ў сілу аж у 56 разоў (!) больш новых або абноўленых правілаў, чым у Швецыі. «Ні адна краіна ў Еўрапейскім Саюзе — як сцвярджае эксперт па падатках праф. Роберт Гвяздоўскі ў інтэрв'ю для Wprost.pl, — не вырабляе столькі законаў, як Польшча». Так што няма чаго звальваць віну на патрабаванні ЕС! Гэта чыста польская праблема. Толькі ў 2015 г. літары новага закона пакрылі 29,8 тыс. стандартных аддрукаваных старонак. Гэта значна менш, чым агульны аб'ём выпушчаных у гэтым жа годзе ў Польшчы кніг з жанру папулярнай літаратуры. Калі, аднак, вылучыць з іх папулярныя дэтэктывы, то хто ведае, ці гэтыя лікі не былі б супастаўнымі. На жаль, гэтак жа як немагчыма прачытаць кожную сёлета выдадзеную кнігу, так няма такога юрыста-цваніка, які прабіўся б праз заканадаўчы гушчар часта супярэчваючых адзін аднаму або адмяняючых адзін аднаго пастаноў, законаў, нарматыўных актаў. А што ўжо абсурдна, не разбярэцца ў гэтым нават заканадавец, то ёсць працавітая грамадка польскіх дэпутатаў і сенатараў, якія ў імя закона гэты закон на працягу многіх гадоў разбураюць, быццам бы ўсім вядомыя шкоднікі Белавежскай пушчы караеды-друкары. У выпадку ўварвання гэтых паспалітых насякомых хтосьці прыдумаў бліскучую канцэпцыю выразання ў пень натуральных лясоў, дзе яны бескантрольна размнажаюцца. Ідэя з'яўляецца радыкальнай і хто ведае, ці яна не была б эфектыўнай. Цікава, ці пытанне, каб выразаць у пень асяроддзе, дзе празмерна множацца дэпутаты-друкары, глыбока непатрыятычнае? Адказаць на гэта не адважуся. Нягледзячы на хранічны боль большасці палякаў, больш за 60% з іх задаволены сваім жыццём, грамадскай і палітычнай сітуацыяй у краіне. Эх, гэтыя працэнты...

**Мірaслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Рэзалюцыя раднага Янчылы

Адзіны радны Форуму меншасцей Падляшша ў гэтым скліканні Гарадской рады г. Беластока Славамір Назарук не выключае выхаду з клуба Грамадзянскай платформы, якога ФМП з'яўляецца партнёрам па кааліцыі. Справа ў тым, што 29 лютага радны ад ГП Тамаш Янчыла ў апошні момант перад сесіяй запрапанаваў унесці ў парадак дня заяву аб ушанаванні памяці Праклятых салдат. Раней радны Назарук не ведаў ні зместу заявы, ні планаў унясення яе ў парадак дня. Дарэчы, не толькі ён, але і іншыя члены рады ад ГП, а нават, кажуць, што і сам старшыня клуба Збігнеў Нікітаровіч, не ведалі.

У рэзалюцыі Тамаша Янчылы можа прачытаць: «Рада горада Беластока аддае належную пашану героям антыкамуністычнага падполля, якія ў абароне незалежнай польскай дзяржавы, у барацьбе за правы на самавызначэнне і рэалізацыю дэмакратычных памкненняў польскага народа выступілі супраць савецкай агрэсіі і навязанага камуністычнага рэжыму». У ходзе сесіі здзіўлены радны Назарук спытаўся пра стаўленне мясцовых улад да «Бурага» ды сказаў, што ён падтрымае заяву, калі яна ўшануе памяць не толькі Праклятых салдат, але і іх ахвяры. Хацеў, каб у заяве запісаць, што пацыфікацыі ў студзені і пачатку лютага 1946 года, якія адбыліся дзякуючы «Бураму» каля Бельска-Падляшскага, «не ўпісваюцца ў дзеянні Праклятых салдат, якія змагаліся супраць навязанай сістэмы». У выніку разгарэлася амаль гадзінная дыскусія. Радны Марэк Хайноўскі прапанаваў дадаць фразу, якая казала б аб гэтых Праклятых салдатах, якія «ў барацьбе за свабодную Польшчу не страцілі чалавецтва». Безвынікова.

— Не селекцыянаваць Праклятых салдат. Трэба аддаць належнае ўсім. Гарадская рада гэта не месца для такой дыскусіі. Гэта тэма для гісторыкаў і юрыстаў. Тэма складаная. Не трэба зводзіць дыскусіі да гісторыі асобных фактаў. Адно ваеннае злачынства не можа быць прызмай, праз якую сёння спрабуецца будаваць памяць аб дзясятках ці сотнях тысяч герояў, — гаварылі радныя ад ПіС, якія маюць большасць у беластоцкай Гарадской радзе.

Сярод выказваючых такія думкі быў радны Павел Мышкоўскі, які 27 лютага ўдзельнічаў у гайнаўскім Маршы Праклятых салдат. Марш арганізавалі ўльтраправыя асяроддзі, якія пакланяюцца «Бураму». Конрад Зелянецкі з ПіС у сваю чаргу спасляўся на вынікі даследавання ІНП у справе пацыфікацый: «Не прылічваю «Бурага» да Праклятых салдат і рашуча не ўшаную гэтай асобы. Але трэба аддаць належнае ўсім непахісным салдатам, якія змагаліся супраць камуністычнага рэжыму ў гэтыя цяжкія часы».

Канчаткова, у Гарадской радзе з дваццаці васьмі дэпутатаў за заявай прагаласавала 20 радных, ніхто не быў супраць і 2 стрымаліся ад галасавання.

У размове са мной пасля сесіі радны Назарук сказаў: «Я не прымаў удзелу ў галасаванні па гэтай заяве. Я незадаволены яе зместам. Гэты падкідыш раднага Янчылы давёў да вельмі няёмкай сітуацыі, асабліва для мяне — прадстаўніка праваслаўнага асяроддзя. Калі б гэтая заява была пракансультавана мы маглі б дадаць да яе сфармуляванні больш-менш такія, як прагучалі ў паведамленні Марка Хайноўскага. У такой сітуацыі я разважаю выхад з клуба Грамадзянскай платформы. У бліжэйшы час у нас сустрэчы — і клубныя, і з уладамі мясцовай ГП. Мы паглядзім, якія аргументы прагучаць з іхняга боку.

На фейсбуку радны Янчыла напісаў: «Заява сугучная з законам датычным Дня Памяці Праклятых салдат, прынятым Сеймам у 2012 годзе галасамі, між іншым, дэпутатаў ад ГП. Я не заўважыў, каб падляшскія дэпутаты тады звярталі ўвагу на нейкія іншыя сферы. Конрад Зелянецкі заўважыў: «Буры гэта не Праклятыя салдат». Ці нейкі мацнейшы водгалас патрэбны?».

У размове са мной Янчыла сказаў даволі загадкава: «Буры» гэта бандыт. Як можна пры ўшаноўванні Праклятых салдат супастаўляць напрыклад «Бурага» з ротмістрам Пілецкім ці прабаваць запісваць, што ўшаноўваем Праклятых салдат выключыўшы... Тады мы прызнавалі б, што «Буры» быў Праклятым салдатам. Я не ведаў, што такая лаканічная заява, у большай частцы спісаная з парламенцкага закона, можа быць зачаткам такой дыскусіі, якая воляй-няволяй звялася да «Бурага». Прызнаўся таксама: «Так мяне нешта кранула пасля гайнаўскага маршу, і я напісаў гэтую заяву. Гэта была ініцыятыва раднага, а не клуба».

Варта нагадаць, што восенню 2014 г. беластоцкая Гарадская рада папярэдняга склікання прысвоіла імя Праклятых салдат аднаму з новых кругавых скрыжаванняў у горадзе. Тады, пасля эмацыянальнай дыскусіі ў абгрунтаванні пастановы была зроблена агаворка: «Гарадская рада Беластока сцвярджае, што пастанова не падтрымлівае злачынных дзеянняў, учыненых часткай салдат узброенага падполля».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Флагман беларускай культуры


Фота Міры ЛУКШЫ

**Размова са шматгадовым дырэктарам Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуардам ШВАЙКО.**

**— Вестка пра Ваш адыход з Польшчы навяла на мяне сум. Ваша добразычлівая ўсмешка прымушала бачыць у Вас вельмі блізкую душу, амаль сардэчнага сямейніка. І хацелася б даведацца пра Вас больш... Напачатак пытанне пра Вас, каб Вы сказалі крыху пра сябе, як Вы прыйшлі да нас?**

— Родам я з Ганцаўшчыны, гэта каля Баранавіч, у Брэсцкай вобласці. Мне вельмі блізкая вясковая культура, таму што я выхоўваўся на вёсцы. Апынуўся я на Беласточчыне ў 2008 годзе, калі паўстала ідэя стварэння Культурнага цэнтра Беларусі. У той час вырашана было стварыць яго менавіта ў Беластоку. Мне выпаў гонар і абавязак заняцца тады арганізацыйнымі пытаннямі, датычнымі арэнды будынка і падрыхтавання яго да дзейнасці ў якасці Культурнага цэнтра Беларусі. І распачынаць дзейнасць гэтага цэнтра, ладзіць мерапрыемствы. Праца палягала таксама на тым, каб ладзіць мерапрыемствы таксама і ў супрацоўніцтве з грамадскімі аб'яднаннямі беларускай меншасці ў Польшчы...

**— Зараз-зараз — то Вас так узялі адразу з Ганцавіч і ў Беласток?**

— Я працаваў у Брэсцкім аблвыканкаме, потым у Міністэрстве замежных спраў, консулам у Варшаве. Пасля гэтага ўжо апынуўся ў Беластоку. Да таго ў аблвыканкаме, пачынаючы ад сакратарыята еўрарэгіёна „Буг" займаўся пытаннямі прыгранічнага супрацоўніцтва Беларусі і Польшчы, кантактамі ў галіне культуры і адукацыі, праектамі транспамежнага супрацоўніцтва, якія рэалізоўваліся ў рамках еўрарэгіёна „Буг" — праграмы Еўрасаюза „Польшча-Беларусь-Украіна", напрыклад, стварэннем інфармацыйнага транспамежнага цэнтра ў Брэсце. Чарговым праектам было прыцягненне еўрапейскіх інвестыцый у памежныя рэгіёны краін СНД, свабодную эканамічную зону „Брэст", і інш.

**— Вы набраліся такім чынам крыху польскага духу...**

— Вучыўся ў Брэсце, дзе маёй другой замежнай мовай была польская мова. Брэст, як памежны горад, быў блізка скантактаваны з Польшчай, туды даходзіла польскае тэлебачанне, радыё, газеты, таму з польскай мовай было ў мяне даволі зручна, што паўплывала і на тое, што я стаў на працу ў Міністэрстве замежных спраў, бо там патрэбны былі спецыялісты з веданнем польскай мовы і знаёмасцю спецыфікі супрацоўніцтва з Польшчай.

**— Вы пачыналі працу ў Польшчы ў Беластоку, але пасля трэба было перабазіравацца ў Варшаву. Гэта было рашэнне вярхоў?..**

— Польскі бок паставіў такія ўмовы, што ўсе культурныя цэнтры замежных краін павінны быць у сталіцы, без выключэнняў. Таму мы, выконваючы волю польскага боку, перанеслі наш культурны цэнтр у Варшаву.

**— І Вам зноў давялося яго як бы нанава арганізоўваць...**

— Фактычна так, тым больш, што культурны цэнтр працуе па ўсёй Польшчы, мы супрацоўнічаем практычна з усімі ваяводствамі. За гэты час мы набылі шмат партнёраў, дзякуючы якім адбываецца нашы мерапрыемствы ў Польшчы.

**— Выбачайце, што я ўвайду Вам у слова, але напэўна нешта памянялася ў працы цэнтра ў сувязі з яго перавядзеннем з Беластока ў Варшаву.**

— Мне пра гэта складана гаварыць. Можа беларусы на Падляшшы гэта больш адчуваюць, бо ж было шмат запытанняў да нас, чаму мы пераносімся. Але ўсё ж такі мы стараемся, каб нашы кантакты не слабелі. Сучасныя камунікацыйныя магчымасці дазваляюць непасрэдна кантактавацца, таму максімальна стараемся быць на Падляшшы. Цешымся з таго, што беларуская меншасць працягвае займацца захаваннем сваёй культуры, традыцыі...

**— Я зноў увайду Вам у слова: дзейнасць Культурнага цэнтра Беларусі хіба не скіраваная на нашу меншасць, але на большасць, на польскае грамадства, каб знаёміць яго менавіта з культурай Беларусі. Ці не памыляюся?**

— Дзейнасць культурнага цэнтра разнастайная. Галоўная мэта — гэта прэзентацыя беларускай культуры ў Польшчы, пашырэнне ведаў пра Беларусь, пра беларускую культуру, традыцыі, мову, пра сучасную Беларусь. Тут формы дзейнасці могуць быць самыя розныя. У нас бываюць прыклады рэалізацыі як мініпраектаў, так і буйных мерапрыемстваў. Так, прыходзіла са школ цэнтральнай Польшчы, з Мінска-Мазавецкага, з Лодзі ці іншых мясцовасцей інфармацыя, што там хочуць наладзіць дні нацыянальных культур і пазнаёміцца менавіта з беларускай культурай. І мы дапамагалі, накіроўвалі матэрыялы, фільмы — мастацкія і дзіцячыя, дапамагалі арганізаваць фотавыставы пра Беларусь і г.д. Як другі прыклад — мы арганізавалі Дні Беларусі ў Падкарпацкім ваяводстве — гэта падтрымка на ўзроўні мясцовага самаўрада...

**— Ці было адтуль, з Падкарпацкага ваяводства, такое запатрабаванне, ці гэта была ваша ініцыятыва?**

— Гэта была ініцыятыва Аб'яднання Польшча-Усход, іх аддзела ў Падкарпацкім ваяводстве пры нашай актыўнай дапамозе. Арганізавалі там прыезд калектываў, прэзентацыю фільмаў, была сустрэча пасла Беларусі ў Польшчы са студэнтамі і выкладчыкамі мясцовага ўніверсітэта. Карыстаемся самымі рознымі формамі супрацоўніцтва, спрыяем развіццю кантактаў між культурнымі і адукацыйнымі ўстановамі дзвюх краін, таму што гэта сапраўды моцны падмурак далейшага развіцця кантактаў і дыялогу паміж Беларуссю і Польшчай. Добрым, дарэчы, прыкладам, з'яўляецца супрацоўніцтва наша з замкам Ксёнж, што дазволіла сарганізаваць у мінулым годзе выставу прац Марка Шагала. Было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве гэтай установы з Нясвіжскім палацам; шмат ужо плануецца ў гэтым накірунку.

У 2013 годзе ўпершыню за апошнія 17 гадоў па нашай ініцыятыве ў Польшчы былі праведзены Дні культуры Беларусі, падчас якіх арганізаваны шэраг мерапрыемстваў з удзелам вядучых мастацкіх калектываў з нашай краіны, а таксама выстаўкі, прэзентацыі і г.д. У тым ліку ў рамках Дзён культуры былі задзейнічаны і аб'яднанні беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

У мінулым годзе пры нашым удзеле было падпісана пагадненне паміж Падляшскім музеем і Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь — адбыліся дзве выставы Нёманскага шклозавода ў беластоцкай ратушы і выстава арыгінальных фатаграфій стагадовай даўнасці этнографа беларускага Палесся Ісака Сербава з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

Такія вось прыклады і мы спадзяемся, што кантакты паміж установамі культуры будуць працягвацца, не зважаючы на ролю ці ўдзел Цэнтра, бо гэта другараднае. Але мы цешымся з таго, што ёсць супрацоўніцтва, у тым і напрамую. Са свайго боку будзем рады прымаць выставы, напрыклад, з Падляшскага музея ў Мастацкім музеі ў Мінску. Таму гэты дыялог у двух накірунках: ёсць кантакты паміж універсітэтамі, экспертнымі асяроддзямі. У ліку добрых прыкладаў такога супрацоўніцтва можна прывесці канферэнцыю, якую сарганізавалі ў мінулым годзе ў Варшаўскім універсітэце на тэму „Польшча і Беларусь у сучаснай Еўропе" — былі запрошаны палітолагі, эканамісты, культуролагі, якія абмяркоўвалі актуальныя пытанні сучасных двухбаковых польска-беларускіх адносін. Сёлета будзе працяг гэтай канферэнцыі, яе другі выпуск у месяцы маі.

**— Вы згадалі імя Шагала. Якая частка ягонай спадчыны захоўваецца ў Беларусі?**

— Маюць працы ў сваіх калекцыях Дом-Музей Шагала ў Віцебску, Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Мы, дарэчы, на 2017 год рыхтуем выставу і будзем спадзявацца яе сарганізаваць, якая датычыць мастакоў „Парыжскай школы", у Варшаве ў супрацоўніцтве з Музеем гісторыі яўрэяў Польшчы. Плануецца, што выстава будзе міжнароднай, дзе будуць прадстаўлены мастакі, якія нарадзіліся ў Польшчы, Беларусі, іншых краінах.

**— Ці такія ўстановы, як Культурны цэнтр Беларусі, працуюць у іншых, чым Польшча, краінах?**

— Дзякуючы таму, што я пачынаў працаваць менавіта тут як консул, і займаўся практычнымі пытаннямі стварэння Культурнага цэнтра Беларусі, развіццём яго дзейнасці, пашырэннем кантактаў паміж культурнымі ўстановамі Беларусі і Польшчы, у свой час былы пасол Беларусі ў Польшчы спадар Павел Латушка запрасіў мяне працаваць у Міністэрства культуры, дзе я займаўся, між іншым, і пытаннямі стварэння іншых культурных цэнтраў за межамі Беларусі. У планах застаецца стварэнне яшчэ некалькіх культурных цэнтраў — Вільня, Берлін, Парыж, Масква, Кіеў. Ну, жыццё ўносіць карэктывы ў гэтыя планы. На гэты час адкрыта Культурна-дзелавы цэнтр у Маскве, ён працуе паўнавартасна. Спадар Павел Латушка, зараз пасол Беларусі ў Францыі, стварыў культурны цэнтр у Парыжы, які на гэты час працуе на грамадскіх пачатках. Будзем спадзявацца далей развіваць гэтую працу — каб ствараць такія культурныя цэнтры ў іншых краінах.

Вопыт нашага культурнага цэнтра ў Польшчы, я перакананы, паказвае, што сапраўды шмат удалося зрабіць дзеля пашырэння двухбаковага дыялогу, не толькі ў галіне культуры, але таксама і ў справе беларускай меншасці, яе падтрымкі. І тут я хачу падкрэсліць што не ўсё можа ўдалося зрэалізаваць. Маёй марай было, каб сапраўды на такіх мерапрыемствах меншасцей, так беларускай у Польшчы, як і польскай у Беларусі, маглі сустрэцца кіраўнікі дзяржаў, прэм'ер-міністры, міністры культуры, адукацыі і г.д. Каб мы сапраўды маглі цешыцца з таго, што падтрымоўваецца культура меншасцей, бо гэта неад'емная частка нашай супольнай гісторыі, гэта тое, што нас павінна лучыць.

**— Са сказанага мне бачыцца, што Культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы з'яўляецца флагманам беларускай культуры ў замежжы...**

— Мы, з аднаго боку, можам сябе лічыць піянерамі ў гэтым сэнсе, таму спадзяемся, што гэты вопыт будзе карысны і для іншых культурных праектаў. Я буду гатовы з задавальненнем дапамагаць, падказваць, што неабходна, на што звяртаць увагу.

**— Вы зараз адыходзіце ў Беларусь, у міністэрства. А так больш канкрэтна можаце сказаць пра напрамак Вашай будучай дзейнасці?**

— Буду займацца больш гандлёва-эканамічнымі пытаннямі, трансгранічным памежным супрацоўніцтвам у Міністэрстве замежных спраў.

**— Дзякую Вам сардэчна за Вашу дзейнасць, бо ж Вы не толькі службова, але і асабістымі якасцямі былі выдатным прадстаўніком беларускай культуры. Жадаю Вам далейшых поспехаў.**

Размаўляў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

## У гайнаўскім шпіталі

Апошнім часам здароўе пачало падводзіць. Атрымаў я накіраванне на шпіталізацыю ў Гайнаўку. Апошняе лячэнне ў гэтай медычнай установе праходзіў я гадоў восем таму на хірургічным аддзяленні. Зараз паклалі мяне на інтэрну. Гастролаг рэкамендаваў зрабіць каланаскопію. Такі від абследавання неабходна было ўзгодніць з ардынатарам. У мяне такой дамоўленасці не было. І выніклі праблемы ў палаце прыёму. Лекар-дзяжурны заявіў, што такое абследаванне могуць выканаць у маім выпадку 8 сакавіка. Трапіў я аднак на спагадлівага чалавека. Дзяжурны, зважыўшы на мой узрост і ненайлепшы стан здароўя, вырашыў прыняць у шпіталь. Паколькі я выявіў, што маю праблемы з сэрцам і ціскам крыві, паклалі на кардыялогію. З першага дня пачаліся абследаванні. Зрабілі электракардыяграму. На наступны дзень выканалі ўльтрагукавое абследаванне страўніка і мачавога пузыра. За чатыры дні прасвятлілі мяне з ног да галавы, у гэтым ліку зрабілі таксама каланаскопію.

А самае важнае, што ў час пяцідзённай шпіталізацыі я не адчуваў сябе адзінокім. Наладзіў я знаёмства з калегамі па няшчасці: з 78-гадовым Грышам Петручуком з Грабаўца, маладзенькім Міркам Божкам са Старога Корніна ды Юркам Купрыяновічам з Кленік. У час размовы знайшлі мы супольных знаёмых. Ажывалі ўспаміны мінулых дзён, калі я ў шасцідзясятыя гады вандраваў з кінаперасоўкай па Гайнаўшчыне і Бельшчыне. Ладзіліся сімпатычныя суадносіны хворых з медперсаналам, пачаўшы ад лекараў, а кончыўшы на санітарках. Гайнаўскім медыкам і дапаможнаму персаналу належыцца заслужаная пашана — за іхнюю ветлівасць і спагадлівасць да пацыентаў, належны догляд за інвалідамі і няздольнымі да самастойнага існавання старэчамі пасля апаплексічнага ўдару. А такія ляжалі ў суседняй палаце. Варта згадаць і аб бытавых умовах у гайнаўскай бальніцы. Шыкарна адноўленыя палаты хворых, звонку ўцепленыя і памаляваныя. У кожнай палаце туалет з умывальнікам. Ды і на харчаванне нельга наракаць. Смачныя стравы дабаўляюць сілы пацыентам. А гэта заслуга ўсяго кіраўніцтва на чале з дырэктарам Рыгорам Тамашуком. І ў яго адрас шлю шпітальнаму калектыву сардэчную падзяку.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Збіральнікі лекавых раслін шануйце прыроду!

Вясна не за гарамі. І неўзабаве пачнецца сезон збірання лекавых зёлак. Ужо цяпер яны збіраюць, між іншым, лісце брусніц, ягады ядлоўцу, кару крушыны і вярбы, шышкі вольхі ды карэнне крапівы і дуброўкі (пяцёрніку).

Зараз суполка «Руно» ў Гайнаўцы за кілаграм высушанага лісця брусніцы плаціць 12 злотых, за ягады ядлоўцу — 10 зл., за шышкі вольхі — 4,50 зл., за кару крушыны — 4,50 зл. і кару вярбы — 1 зл., за карэнне дуброўкі (пяцёрніку) — 15 зл. і за карэнне крапівы — 5 зл. Ужо цяпер можна заняцца збіральніцтвам. Калі прыгрэе сонца і пачнуць шпарка расці маладыя сасонкі, тады можна будзе збіраць парасткі сасны, кілаграм якіх каштуе 10 злотых.

Збіральнікі бываюць розныя. Каб аблегчыць сабе працу, некаторыя з іх (а такіх шмат) не абрываюць лісця брусніцы ў лесе, а вырываюць цэлыя кусцікі з карэннем або сякуць галінкі з лісцем ды кладуць іх у мяхі. Такім чынам пазбаўляюць лес ягадніку і тут не будзе больш ягад! Такія збіральнікі лекавых раслін гэта варвары. Імі павінна заняцца лясная страж.

Ужо цяпер псеўдазбіральнікі давялі да таго, што ў сасновых лясах Нараўчанскай гміны рэдка дзе знойдзеце падобны на шэры мох лішайнік ісландскі. А ён жа быў дагэтуль і надалей ёсць пад аховай! Дойдзе яшчэ і да таго, што ў «маім» лесе Плянта дарма будзе шукаць ягад брусніцы.

**(яц)**

# Беларуская гавэнда

**Падчас XVII Конкурсу беларускай гавэнды „Гайнаўка-2016”, які адбыўся 26 лютага ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, выступіла больш выканаўцаў чым у мінулых гадах. Узровень расказаў быў прыстойны, а самыя лепшыя расказчыкі запрэзентаваліся на вельмі высокім узроўні і захапілі публіку сваімі акцёрскімі ўмеласцямі. Вучні Гімназіі ў Нараўцы і Падставовай школы ў Новым Корніне запрэзентавалі чатыры сцэнкі з расказамі і дыялогамі.**

Хаця не быў гэта юбілейны выпуск конкурсу, на мерапрыемства прыбыло многа гасцей, якіх прывітаў яго галоўны арганізатар Ян Карчэўскі. Ад Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве, аднаго з галоўных спонсараў конкурсу, прыбылі дырэктар Эдуард Швайко, якога місія кончылася 29 лютага, і Міхаіл Рыбакоў, які з 1 сакавіка меў уступіць на пасаду дырэктара КЦБ. Гайнаўскі стараста Міраслаў Раманюк прывітаў сабраных ад імя Гайнаўскага стараства, якое з'яўляецца вядучым органам для Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы — арганізатара конкурсу беларускай гавэнды. Спонсарам конкурсу расказчыкаў з'яўляецца таксама Гарадская ўправа. Гайнаўкі, ад імя якой сабраных прывітаў сакратар гарадской управы Яраслаў Грыгарук. Ад імя Музея і асяродка беларускай культуры на мерапрыемства прыбылі дырэктар Тамаш Ціханюк і музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская, якая працавала ў конкурснай камісіі разам з яе старшынёй Іалантай Грыгарук і настаўніцай-бібліятэкаркай Ірэнай Ігнатовіч. Гэтыя асобы разам з дырэктарам белліцэя і белгімназіі Яўгенам Сачко і яго намесніцай Нінай Лукасік сачылі за выступамі вучняў. Мерапрыемства ўдала вяла вучаніца Анна Бяляўская. Публіку саставілі таксама вучні белліцэя і белгімназіі, настаўнікі і бацькі расказчыкаў.

Многія вучні запрэзентаваліся падчас конкурусу гавэнды чарговы раз і ведалі як праходзіць конкурс і на што трэба звяртаць увагу, каб дабіцца поспеху. Частка расказчыкаў выступіла першы раз і некаторыя з іх адразу дабіліся перамогі. Сярод вучняў падставовых школ першыя месцы занялі Ніна Марціновіч з Нараўкі, Малгажата Галёнка з Арэшкава і Юльян Раманюк з ПШ № 6 у Гайнаўцы.

— Я не баяўся расказваць і не хвaляваўся перад выступам, — заявіў сямігадовы Юльян Раманюк.

Яго настаўніца беларускай мовы Беата Кендысь сказала, што Юльян пачаў вучыцца беларускай мове толькі з верасня мінулага года, але вельмі хутка засвойвае беларускія словы і ўмее цікава расказваць.

— Я выступаю другі раз. Добра мне атрымаўся расказ перад публікай. Я старалася запрэзентавацца як найлепш і ўлічыла заўвагі маёй настаўніцы, — сказала Малгажата Галёнка з Арэшкава.

Настаўніца Ірэна Герасімюк заявіла, што козыры Малгажаты гэта яе акцёрскія здольнасці, вопыт выступаць перад вялікай публікай, які здабыла падчас дэкламатарскіх конкурсаў «Роднае слова», і ўменне слухаць заўвагі настаўніка падчас рэпетыцый. Настаўнікі беларускай мовы ведаюць магчымасці сваіх вучняў і дапамагаюць ім падабраць тэмы для расказаў або самі пішуць ім аповеды. Часта ў расказах паяўляецца гумар, што робіць гавэнду вясёлай. Настаўнікі стараліся так рыхтаваць вучняў, каб паказаць як мага найбольш козыраў юных выступоўцаў. Аднак канчатковы рэзультат выступаў залежаў у вялікай ступені ад акцёрскіх здольнасцей маладых людзей.

— Тут вельмі добрая атмасфера і мне добра расказвалася, — заявіла — Ніна Марціновіч са школы ў Нараўцы, з якой выступіла ажно 10 вучняў. Хлопцы з Нараўкі Рафал Марчук і Рафал Новік сказалі, што ім падабаюцца вясёлыя расказы, але яны самі падрыхтавалі больш сур'ёзныя аповеды.

— Апошнім часам штораз больш нашых вучняў хоча прымаць удзел у „Беларускай гавэндзе”. Не ўсе такія адважныя, каб выступаць у адзіночку, таму частка нашых вучаніц выступіла ў парах. Важныя адвага вучняў і цікавыя тэксты, — сказала настаўніца беларускай мовы ў школе ў Нараўцы Анна Кандрацюк.

Другія месцы ў катэгорыі вучняў падставовых школ занялі Тамаш Харкевіч з Нараўкі, Карнелія Порац з Нарвы і Юліта Бармута з Белавежы. На трэціх месцах апынуліся Анна Рушук і Вольга Сідарук з Новага Корніна, Марта Хілецкая з Белавежы, Мартына Белавежац і Юлія Ахрымюк з Чыжоў.

— Я выбрала адну з тэм, якія запрапанавала настаўніца і перш за ўсё старалася зацікавіць публіку, — заявіла Карнелія Порац з Нарвы.

— У конкурсе гавэнды выступалі мае вучні са школы ў Дубінах. У гэтым школьным годзе я вярнулася на працу ў школе ў Новым Корніне, дзе працавала раней настаўніцай беларускай мовы і прывезла дзве вучаніцы на конкурс. У школе ў Корніне амаль усе дзеткі вучацца па-беларуску



■ Юльян Раманюк



■ Малгажата Галёнка



■ Крыстыян Паскробка

і толькі двух вучняў не ходзяць на заняткі беларускай мовы, адзін — з-за хваробы і адна вучаніца, якая прыехала да нас з Украіны, — сказала настаўніца Ніна Куптэль.

— Конкурс гавэнды нам падабаецца. Прымаем таксама ўдзел у дэкламатарскім конкурсе, — сказалі Мартына Белавежац і Юлія Ахрымюк з Чыжоў.

Настаўніца беларускай мовы са школы ў Чыжах Анна Лаеўская сказала, што лаўрэатаў сёлетняй гавэнды з іх школы да выступаў падрыхтавала настаўніца Валянціна Андрасюк.

У катэгорыі вучняў гімназічных школ першыя месцы занялі Крыстыян Паскробка з Нарвы і Дар'я Місяюк з Гайнаўкі. Другое месца занялі Кацярына Мучко і Паўліна Лаўнічук з Нараўкі. Трэція месцы занялі Альжбета Харкевіч і Карнелія Барэчка з Нараўкі ды Магдалена Мішчук з Гайнаўкі.

— Я перамагаў ужо ў конкурсах „Беларуская гавэнда” і „Роднае слова”. Мая настаўніца падбірае мне некалькі матэрыялаў да расказаў і я выбіраю з іх адзін, які мне найбольш падыходзіць. Стараюся так расказваць, каб зацікавіць публіку і мець з ёю зрокавы кантакт. Мне важна быць пераканальным, чаму дапамагаюць жэсты і праца голасам, — гаварыў Крыстыян Паскробка.

— Наш Крыстыян — сапраўдны акцёр. Ён нават задумваецца, ці ў будучыні не паступіць у тэатральную школу. Перамагаў у гавэндавым і дэкламатарскім конкурсах, іграе ў тэатральных прадстаўленнях, якія мы рыхтуем у школе. Ён заўсёды выступае па-свойму, на рэпетыцыях інакш, а на конкурсе інакш, і гэта ў яго добра атрымліваецца, — сказала настаўніца беларускай мовы з Нарвы Ніна Абрамюк.

— Я дэкламую і распавядаю ад многіх гадоў. Сёння я старалася расказваць як мага найбольш пераканаўча і зацікавіць сабраных маім аповедам, — сказала Дар'я Місяюк.

— Тут іншая атмасфера, чым на дэкламатарскім конкурсе, але мне падабаецца, — сказала Магдалена Мішчук з Арэшкава.

Анне Несцярук з Гайнаўскага белліцэя камісія прызначыла другое месца ў катэгорыі звышгімназічных школ. Старшыня конкурснай камісіі Іаланта Грыгарук сказала, што сёлетні ўзровень выступаў навучэнцаў беларускай мовы быў высокі і вучні запрэзентавалі цікавыя аповеды. Было відаць, што большасць з іх многа часу рыхтавалася, каб удала запрэзентавацца перад камісіяй, якая ацэньвала расказчыкаў, звяртаючы ўвагу на падборку рэпертуару, інтэрпрэтацыю і адукацыйныя вартасці аповедаў, культуру слова і правільнае вымаўленне. Вучні ведаюць, што важныя таксама спантаннасць выступаў, жэсты і шчырасць выказванняў і звяртаюць на гэта ўвагу, рыхтуючыся да конкурсу. Большасць расказчыкаў выступіла ў сваёй вопратцы, але частка вучняў была апранута ў строі, характэрныя персанажам, у якія яны ўвасабляліся. Тыя, што хацелі развесяліць публіку, паказвалі, між іншым, заганы людзей.

— Самае важнае ў „Беларускай гавэндзе” — прывіваць любоў да беларускага слова і ўсяго беларускага. Калі пабольшала колькасць удзельнікаў конкурсу ў параўнанні з мінулымі гадамі, гэта нас цешыць. Некаторыя вучні выступаюць з міні-скетчамі. Радуе таксама, што ўзровень сёлетніх выступаў высокі і што вучні патрапілі зацікавіць публіку і трымаць з ёю кантакт, — падвёў вынікі выступаў Янка Карчэўскі, які сямнаццаты раз арганізаваў „Беларускую гавэнду”.

У XVII Конкурсе беларускай гавэнды „Гайнаўка-2016” прынялі ўдзел вучні падставовых школ і гімназій з Гайнаўкі, Нараўкі, Нарвы, Чыжоў, Белавежы, Арэшкава і Новага Корніна ды гайнаўская белліцэістка. Усе ўдзельнікі гавэнды паабедалі ў белліцэйскай сталовай і атрымалі кніжныя падарункі. Пераможцы беларускага конкурсу атрымалі дыпломы і вартасныя ўзнагароды. Перад сабранымі ў актавай зале з невялікім канцэртам з беларускім рэпертуарам выступіў белліцэйскі калектыў „Знічка”, з якім займаецца Бажэна Вінцонак.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

■ Юры Плютовіч і Міхал Ксёнжак



## Юбілейная XXV прэмія Казанэцкага

# Плютовіч: «ці паэт — залішні чалавек?»

Літаратурная прэмія прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага за найлепшую кнігу года прысуджаецца пісьменнікам, якія звязаны з літаратурнымі коламі Беластока і рэгіёна або нарадзіліся тут ці тут жывуць, ці чыя праца паказвае сувязь з горадам і рэгіёнам або чые кнігі былі выдадзены ў Беластоку. Прэмія прысуджаецца аўтарам лепшых кніг усіх жанраў. З удзелу выключаны анталогіі, даследаванні і навуковыя публікацыі. Узнагарода прысуджаецца за кнігі, выдадзеныя ў перыяд з 1 студзеня па 31 снежня каляндарнага года, які папярэднічае году прэміі, таксама ў электроннай форме (электронныя кнігі), не ўключаныя рукапісы кніг.

Пераможцамі прэміі былі ў некалькі раз Ян Леанчук, Анна Маркова, Альжбета Казлоўская-Свянткоўская, Яніна Козак-Пайкерт, Ігнат Карповіч і Юры Плютовіч. Са спіска кніг заяўленых да ўзнагароды на год юбілейнага выпуску ў рэкордный кольнасці — 32! — поўны Капітул прэміі — Галіна Казанэцкая (жонка паэта), Яраслаў Кляйноцкі, Марэк Кахаsuccessfully... 

Юбілей стаў нагодай для дыскусіі аб літаратуры звязанай з Беластокам, але і пра самую ўзнагароду. Уладам Беластока залежыць на тым, каб стала яна вядомай і прэстыжнай ва ўсёй краіне. Аўтары атрымалі прэмію ў памеры 17 тысяч злотых (брута).

Пераможцамі сёлетняй XXV узнагароды прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага сталі Юры Плютовіч і Міхал Ксёнжак. Паэт быў удастоены ўзнагароды за жыццёвыя дасягненні з асаблівым акцэнтам на кнізе вершаў «Jesień 2014». Міхал Ксёнжэк за «падарожны рэпартаж» — паэтычна-дакументальную кнігу «Droga 816»; аценены быў яго наватарскі падыход да канвенцыі падарожжаў і паказ шматмернай карціны Усходу — вандроўка ўздоўж польскай усходняй мяжы. Загаловачная дарога № 816 у кнізе Ксенёжка, званая таксама «Надбужанкай», праходзіць з поўначы на поўдзень, уздоўж польска-беларускай і польска-ўкраінскай межаў. «Гэта тэрыторыя з прыгожымі пейзажамі і асаблівая з-за сваёй гісторыі. Хто не быў там, напэўна штосьці страціць», — сказаў аўтар пасля атрымання ўзнагароды. Ён прызнаўся, што падарожжа надае высакароднасць, асабліва пешыя паходы. Катажына Савіцкая-Мяжынская, старшыня Капітула ўзнагароды, падкрэсліла, што кнігу «Droga 816» немагчыма класіфікаваць на ўзроўні жанру:

— Аўтар прыгледжваецца людзям, раслінам, птушкам, але больш за ўсё самому сабе, — заўважыла. — Пытаецца: кім мы ёсць у дарозе?

Міхал Ксёнжак збіраецца пасяліцца ў Крынках. Сам ён родам з Арачова пад Серадзам. Ён ляснік і культуразнаўца, быў таксам гідам па Сібіры. Некалькі гадоў правёў у Якуціі. У 2013 годзе ён выпусціў сваю першую кнігу «Якуцк. Слоўнік месца», а ў 2014 годзе свой дэбютны том паэзіі «Nauka o ptakach» (намінаваны да ўзнагароды «Ніке», лаўрэат узнагароды «Сілезіюса». Другі лаўрэат сёлетняй прэміі імя В. Казанэцкага — Юры Плютовіч. Яго ўганаравалі за ўсю творчасць, з асаблівым акцэнтам на томе «Jesień 2014», выдадзеным у 50-годдзе выхаду дэбютнага тому паэзіі. На працягу многіх гадоў Юры Плютовіч будуе свой непадробны паэтычны свет, назалежна ад мод, плыняў і кан'юнктур.

— Гэта мая не першая ўзнагарода Казанэцкага, але эмоцыі заўсёды такія самыя, — прызнаўся ўсхваляваны Плютовіч, прымаючы статуэтку ад прэзідэнта Тадэвуша Трускаляскага. — Паэзія гэта нішавае поле і я спадзяюся, што дзякуючы гэтай узнагародзе здабудзе яна чытачоў.

Катажына Савіцкая-Мяжынская дадала, што Юры Плютовіч, які ад гадоў будуе свой паэтычны свет, не хоча быць «сучасным паэтам». Аўтар адзначае, што пазбягае шуму і жыве ўдалечыні ад літаратурнай супольнасці. Юры Плютовіч паэт і эсэіст. Ён нарадзіўся ў 1947 годзе ў Бельску-Падляшскім. Скончыў рускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Дэбютаваў у 1967 годзе ў часопісе «Współczesność». Затым яго вершы былі апублікаваны, сярод іншага, у часопісах «Poezja», «Twórczość», «Kultura», штомесячніку «Charaktery». Першы том яго вершаў «Niegdyś to znaczy nigdy» быў выпушчаны ў 1975 г. Гэта ўжо яго чацвёртая ўзнагарода імя Казанэцкага. Прэмія ў 2006 годзе была для «Nagle, w świecie» — за збор філасофскіх эсэ, які ўяўляў сабой вялікае чытанне, ахопліваючае шырокі круг інтэлектуальных, філасофскіх, крытычна-літаратурных пытанняў. Плютовіч быў лаўрэатам прэміі В. Казанэцкага ў 2002 годзе за том «Zapomniana wojna. Europa po deszczu», а ў 1998 годзе за том «Kotlina» (выдадзены «Карткамі»). Жыве ў Беластоку, але вельмі часта бывае ў сваім родным Бельску, дзе апякуецца матуляй. Кажа: «Я сцвярджаю, што адзіным сябрам пісьменніка застаўся чытач — шчыры аматар прыгожага слова. Гэта не азначае, што пісьменнік павінен яго задобрыць, пісаць «пад публічку» — пад нейкі нібыта ўніверсальны дрэнны густ. Калі лісілівіць — гэта не дружба. Сяброўства будзе тады, калі наступіць устойлівы дыялог пісьменніка з чытачом. Няпроста заслужыць сабе такі дыялог».

Адно з пытанняў дыскусіі: лепш творцы ладзяць з жывёламі, ці з людзьмі? Самі яны з «дзіўнага племя», вылучаючыся нават выглядам, паводзінамі. Як Януш Тараненка, які не разумее, што такое «гіпстэр», хоць іншыя яго лічаць такім ад вякоў. Часам яны «навалач», якая прабуе адчуць сябе сваім сярод тых, дзе пасяліўся (ці не так будзе з Ксёнжкам у Крынках?). Так як і героі кніг — як Сімона Косак з Кракава, жыхарка Белавежжа.

— Сімона Косак — для мяне міфічная фігура, амаль літаратурная, — заўважыў М. Ксёнжэк. — Але я думаю, што я з'яўляюся членам племя, з якога яна паходзіць. Нам патрэбныя такія людзі, якія нагадваюць нам аб адчувальнасці.

Юры Плютовіч: — Я баюся электронных прылад. Не карыстаюся імі. Пішу ручкай. Нягледзячы на тое, змагу адправіць электронную пошту. Стараюся пісаць проста. Тое, што мяне цікавіць, гэта канкрэтнасць, не агульнасць. Тыя людзі, хто разважалі пра нас, гэта моладзь, я — сеньёр. Маю час на одум, падагульненні. Можа быць, мы трохі далёкія адзін ад аднаго. Мяне больш цікавіць цяпер падагульненне, развітанне вельмі сур'ёзнае, але неабавязковае. З гэтай апытанкі сярод маладых быццам бы вынікае, што паэт з'яўляецца чалавекам хутчэй залішнім?

Сярод 32 кніжак былі адзначаны цікавыя кнігі: «Okularnik» Кацярыны Бонды, «Krzyżyk» Міхася Андрасюка (выдадзены Цэнтрам грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь), «Cisza nad Białą» Уладзіміра Саўчука (мінулагодняга стыпендыята маршалка Падляшскага ваяводства), «Droga do domu» нарвянкі Эвы Алімоўскай і яе сына Давіда. Трэба прыкмеціць таксама «добрую руку» выдавецтва «Sąsiedzi» (Андрэй Каліноўскі і Пятро Брысач), якія выдалі дзве пераможныя кнігі, а таксам нашумеўшыя ў Польшчы «Jutro spadną gromy» Бартоша Ястшэмбскага, Енджэя Маравецкага і Мацея Скавінскага (якой папулярнай становіцца падляшская экзатычна-эзатэрычная глыбінка!), зборнік вершаў «Za stodołą» паэтэсы са Златорыі Альжбеты Міхальскай падобнай шмат у чым да нашай Надзеі Артымовіч. Паявілася таксама шмат новых, маладых аўтараў, на якіх добра было б спадзявацца, што іхнія імёны прагучаць не толькі ў Беластоку і пры нагодзе юбілеяў і ўзнагарод. І тутэйшых, а не «навалачы» (*усмешка*), якая на працягу пару тыдняў апіша чорную ці белую душу беластачаніна, як Марцін Концкі («Białystok. Biała siła, czarna pamięć»).

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Ход канём

Мой асабісты Чытач Міхась Куптэль усёбольш захапляе мяне. Восьабнародаваў ён, што прачытаў маю размову з Анатолем Ахрыцюком. («Новы дух», Ніва н-р 6) І то як прачытаў — па-наватарску, ходам шахматнага каня! Нейкі кавалак прачытаў, нейкі кавалак тэксту пераскочыў, а на канец і зусім выскачыў за межы тэксту.

Бо чаго ж абмяжоўвацца нейкімі чужымі нудотамі, калі можна ўнесці свой свежы подых! І мой асабісты Чытач той подых уносіць, абнародваючы з вядомых толькі сабе крыніц такія адкрыцці аба мне, якіх я і сам не ведаў. Праўду гаварылі старажытныя грэчаскія філосафы, што спярша трэба пазнаць самога сябе. А я да гэтай існы ставіўся дагэтуль нядбайным бокам... Дзякую тады вельмі майму асабістаму Чытачу за такую карпатлівую пра мяне дбайнасць. Спадар Міхась Куптэль у мяне — як анёл-ахоўнік.

Якую ж такую векапомную якасць выкрыў у мяне мой Асабісты? А гэта ж маю найсакрэтнейшую мару, каб Белавежскую пушчу высечы да пня! Не буду аспрэчваць выказвання свайго Куміра... І вакол гэтага свайго адкрыцця мой Асабісты закруціўся далей быццам кот вакол свайго хваста. Гэта вельмі пахвальнае, бо ж кот цяпер набывае штораз больш ганаровы ранг і цалкам магчыма, што ў недалёкай будучыні стане ён нашай гербавай фаўнай замест дасюлешняга арла; у мясцовым маштабе можа гэта абазначаць, напрыклад, штоўправугміны давядзецца перанесці з Орлі ў Кошкі...

Белавежская пушча гэта не рай, гэта такі лес як і ўсе іншыя, толькі з буйнейшай гістарычнай легендай і з багацейшым прыродным зместам. З гэтай услякай ёмістасцю, не толькі раслінная, але і з жывёльнаю, гэта такая скрынка Пандоры, толькі нічым не закрытая. Можа гэтага не відаць з пункту гледжання шчырых эколагаў, якія бяспечна сядзяць у гарадскіх кватэрах, але гэта крыху лепш відаць з пункту гледжання людзей, якія ў абсягу Пушчы жывуць. У адрозненне ад майго шаноўнага Асабістага, я не надта ведаю, што пясціцца ў душах найшчырэйшых эколагаў, так як мой Асабісты празорліва бачыць ува мне. Але неяк мне так здаецца — магчыма, што памыляюся — што гэтыя рупліўцы ахвотныя былі б адагнаць ад Пушчы ўсіх тых, у каго іншае прыродаахоўнае меркаванне, напрыклад, правесці нейкую акцыю, якую можна было б назваць крыптанімам „Вісла-Б". Такія рупліўцы, якія лічаць сябе мудрагелістымі вырашаць адлеглыя чужыя лёсы, адчуваюць сябе вельмі шчаслівымі, добра ім. І не так мала іх, і не ўсе, як мой Асабісты, з-за трыдзевяці зямель...

Мне здаецца, што найбольш адданыя эколагі бачаць адно тое, што хочуць убачыць, гэтак жа як і мой Асабісты прачытаў са згаданага раней тэксту толькі тое, што яму хацелася прачытаць, ды яшчэ і дапісаў да таго свае творчыя каштоўнасці. Я такіх рупліўцаў тут назаву не псеўдаэколагамі, як гэта робіць мой Асабісты, але найшчырэйшымі эколагамі першага сорту; мяркую, што мой вельмі далікатны асабісты Чытач на гэта не абразіцца. Я сябе ў гэтым плане сціпла прылічу да другога сорту...

Дон Кіхот з набожнасцю ставіўся да Дульсінеі Табоскай, Паўлік Марозаў з набожнасцю ставіўся да Светлай Будучыні, Міхась Куптэль з набожнасцю ставіцца да Белавежскай пушчы. Жадаю майму Асабістаму запісацца ў гісторыю не менш слаўна, чым згаданыя тут славутыя папярэднікі. Бо ж хіба нетактоўнасцю была б падказка, каб гросмайстар, які велічна гуляе шахматным канём, браўся за празаічныя пешкі.

Аляксандр ВЯРБІЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Беласток вядзе рэй, глыбінка — стратная

У школах, дзе поспехі па прадметных конкурсах — там рэальнае навучанне беларускай мове. На лік пераможцаў уплывае большая або меншая колькасць здольных дзяцей. Усё аднак залежыць ад настаўнікаў. Нават у крайніх умовах таленавіты настаўнік здольны падрыхтаваць лаўрэатаў. У прыклад тут трэба паставіць маленькую школу ў Новым Корніне. Пасля вяртання ў школу настаўніцы Ніны Куптэль беларуская мова адрадзілася. Тут маем не толькі лаўрэата, але і падпісчыкаў ды карэспандэнтаў «Зоркі». Яшчэ два-тры гады назад штосьці такое здавалася немагчымым!

Зараз прапануем агляд лаўрэатаў і фіналістаў з нашых пачатковых школ. Як не цікава, відавочны рэй у конкурсе вядзе Беласток. На першым месцы апынулася Непублічная школа свсв. Кірылы і Мяфодзія з дзевяццю лаўрэатамі *(Зузанна Бакер, Алеся Буткевіч, Эмілія Калодка, Іван Карсунскі, Іаанна Мусюк, Аляксандра Паўлючук, Сяргей Раманюк, Марыя Сівецкая, Мілаш Тэляшэўскі*). Усе яны — вучні настаўніцы Іанны Марко.



Фота Адама Паўлоўскага

Міколка Здрайкоўскі (4 клас) набраў максімальную колькасць балаў

Два другія месцы з васьмю лаўрэатамі займаюць беластоцкая «чацвёрка» (*Дам'ян Хаманюк, Кацярына Іванюк, Ксеня Клімюк, Кандрат Косцін, Кастусь Лукашэвіч, Вікторыя Пякарская, Мікола Здрайкоўскі, Марта Зубрыцкая*). Усе яны выйшлі з-пад рукі Аліны Ваўранюк. Такую ж колькасць лаўрэатаў (пры значна большай колькасці дзяцей і пры некалькіх настаўніках) набрала бельская «тройка» (*Дам'ян Бусловіч, Ільля Фіёнік, Ганна Гадзінская, Юлія Календа, Іаанна Нікіцюк, Нэля Паўлючук, Вікторыя Раеўская, Ігар Зіноўчык*). Добры вынік, бо аж чатырох лаўрэатаў, дасягнула гайнаўская «шасцёрка» (*Андрэй Бабулевіч, Іаанна Хамчук, Эва Іванюк, Дам'ян Іванюк*). Прыстойны лік мае таксама Нараўка (*Дар'юш Ясвіловіч, Анна Радзівончык, Эмілія Скепка*). Падобна атрымалася ў Чыжах, там двое лаўрэатаў (*Барбара Паўлючук* і *Пятро Юрчук*). У Новым Корніне поспех заваяў *Якуб Казімерук*, а ў Дубічах-Царкоўных — *Ніка Якімюк.*

Без лаўрэатаў і фіналістаў па беларускай мове засталіся пачатковыя школы ў Аўгустове, Арэшкаве, Бабіках, Белавежы, Чаромсе, Дубінах, Гарадку, Гайнаўцы — школы № 2 і № 3, Кляшчэлях, Міхалове, Нарве, Орлі, Шудзялаве, Залуках.

На жаль, сумнавядомы спісак у выпадку большасці названых школ паўтараецца ўжо ад гадоў.

На гэтым найбольш стратныя вучні.



Добры вынік заваявалі вучні гайнаўскай шасцёркі

Міра ЛУКША

## Вяз

Із-пад дуба, із-пад вяза
крынічанька выплывала.
А на вязе даўгавекім
ў лістку кветка расквітала.
Вецер кветку запыляў,
пчолка мядок брала.
Вешчы сон цянёк даваў,
лаза вінная сплятала.
«Ільм» і «бераст» так шумяць,
цень густы ў заслоне,
не прапусціць кроплі ліст,
на Дэкарта сон вучоны.
І славянскі храм з крыжом
на пні выразаным
вострым праведным нажом,
хрысціць і вянчае...
А калі той вяз памрэ,
мостам у паветры стане,
ці ў падземнай ён трубе
воды чыстыя качае.
У кароне душаў дом,
невідочных вокам.
Цёмным вокам-ядром
ў памяці глыбокай.
Вяжа з векам стары вяз
братоў усіх дрэваў — нас.

## УВАГА КОНКУРС! № 11-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 20 сакавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Шуміць вясна,
снягі зганяе.
Пяюн,
адзеўшы чорны фрак,
адразу песню выцінае,
Канешне, дзеці —
гэта ш...

## Адказ на загадкі № 7-16:

цыбуля, часнок.

Узнагароды, кампакт-дыскі з беларускімі песнямі, выйгралі НаталляНіканюк, Габрыеля Красько з Арэшкава, Якуб Навумюк з НШ свсв. КіМ, Вікторыя Гаць з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, Карнэлія Барэчка з Нараўкі. Віншуем!

# Буду пісьменніцай або журналісткай




19 лютага, напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы, Непублічная праваслаўная пачатковая школа імя Кірылы і Мяфодзія зладзіла IV Беларускую дыктоўку, удзел у якой прынялі больш за 50 вучняў.

Сёлета для дыктоўкі быў выбраны тэкст з кнігі «Бежанства 1915 года». Вікторыя Кардзюкевіч з I класа гімназіі выдатна справілася з прапанаваным ёй заданнем.

*— Гэта ўжо Твая трэцяя перамога ў школьнай дыктоўцы. Аднак сёлета Табе, наймалодшай гімназістцы, удалося чарговы раз найлепш яе напісаць!*

— Так. Я вельмі ганаруся першым месцам. Беларуская мова — гэта мая родная мова і заўсёды прымаю ўдзел у розных конкурсах, якія арганізуе наша настаўніца Іаанна Марко.

*— Дыктоўка ўсё ж такі складаны конкурс. Не кожны мае адвагу, каб праверыць свае веды па граматыцы беларускай мовы. Ты не хвалявалася крышку перад пісаннем?*

— Тэкст для дыктоўкі быў выбраны з кнігі «Бежанства 1915 года». Я гэтую кнігу маю ў хаце і крыху яе чытала. Калі даведалася, што пішам фрагмент з гэтага зборніка, была паспакайнела. Аднак я ведала, што ёсць шмат вучняў, якія добра ведаюць беларускую мову. Таму не чакала такога поспеху, але перамагаць вельмі файна!

*— Разумею, што граматыка з'яўляецца Тваім моцным бокам?*

— Так (*смех*). У кожнага ёсць штосьці такое, чаго няма ў другой асобы. Таму нейкія здольнасці трэба развіваць. Так думаю.

*— Значыць, стаць мацнейшым можна толькі тады, калі пастаянна трэніруешся. А як Ты развіваеш свае веды, калі ідзе пра беларускую мову? Гэта перш за ўсё заняткі ў школе?*

— Для мяне ўрокі беларускай мовы гэта самыя лепшыя ўрокі. Я вельмі люблю гэты прадмет. Слухаю беларускія песні, чытаю вершы. Апрача таго размаўляю з бацькам і дзядулямі па-беларуску. Хаця гэта дзякуючы заняткам у школе я адважылася пісаць вершы.

*— Напэўна бацька, з якім размаўляеш па-беларуску, будзе ганарыцца тваім поспехам?*

— О! Бацькі вельмі цешацца. Таксама мая бабуля. Калі скажу ёй пра маю перамогу, напэўна зараз цэлая вёска будзе ведаць. Гэта файна.

*— Звязваеш сваю будучыню з працай на беларускай ніве?*

— Так. Я хачу стаць пісьменніцай або журналісткай. Яшчэ думаю. Маю час.

*— Шчыра віншуем Вікторыю з выдатным вынікам і зычым далейшых поспехаў у вывучэнні беларускай мовы!*

**Уршуля ШУБЗДА**

Карнэлія БАРЭЧКА, Гімназія ў Нараўцы

## Мой цудоўны пакой

Мой цудоўны пакой!
Чаму?
У маім пакоі стаіць ложак.
Ёсць там таксама вялікі пісьмовы стол,
на ім лямпа, лісток паперы і даўгапіс.
Калькулятар там таксама адпачывае,
чакае, калі пачну ім карыстацца.
Шафа з адзеннем выпханая
як бы за вушы шарпаная.
На паліцах стаяць альбомы,
а ў іх мае здымкі.
Жоўтую сметніцу...
таксама кармлю кожны дзень.
Яна вельмі любіць фанцікі.
Так сабе думаю:
Гэта мой пакой,
Многа часу тут праводжу,
люблю яго ўсім сэрцам.
Столькі козыраў мае мой пакой.
Вось і таму ён цудоўны.

Кацярына ХАРКЕВІЧ
Мацейкава Гара,
ПШ у Міхалове

## Каханне

Калі каханне грукае ў дзверы,
Я не ведаю што рабіць!
Тады думаю і думаю,
Можа трохі і доўга...
Але нічога!
Калі сапраўды кахае,
Тады мяне пачакае!

## Вершы Віктара Шведа



### Загробнае жыццё

Спытаў настаўнік з пачуццём:
— Скажы ты мне, Валерык,
У загробнае жыццё
Верыш ты, ці не верыш?

Нядаўна ты дзень вольны браў
На дзедкі пахаванне,
А сёння бачыў, як стаяў
Пад школай твой дзед Ваня.

### Пагроза

— Матуля дарагая,
Пытаецца Сярожа, —
Скажы, ці сёння маем
Мы дзянёк прыгожы?

Матуля – дабрадзейка
Кажа: — Я без надзеі.
У дзень прыгожы нейкі
Праз цябе я звар'яцею.

# № 11-16

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7:**

Міг, луг, сам, галінка, каліна, наказ, квіт, цукар. Міт, моц, ганак, сала, шалік, мінак, назва, грамата.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Зузанна Савіцкая, Аляксандра Юзэфовіч, Бартэк Місяюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Іаанна Нікіцюк, Вікторыя Гаць** з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Аляксандра Асташэўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Кася Амільянчык** з Шудзялава, **Караль Гелда** з Бабік. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Żaba | Obuwie | Passat / Burza | | | | Pole | | Szal | |
| | | | | Oda / Ewa | | | | Wyspa | |
| Bocian | | | | | | Las | | | |
| | | | | | | | | | |
| Żuraw | | | | | Link | | Ar | Ho! | |
| Tata | | Skarb | | | Noga | | | | |
| | | | | | Krew | | | | |




# Марш!
## (ч. 2)

(заканчэнне)

За некалькі дзён да І Гайнаўскага маршу памяці салдат праклятых сталі актыўнымі палітыкі Партыі Разам і СЛД. Акрамя таго актывізавалася Грамадзянская платформа: падляшскі старшыня яе структур дэпутат Сейма **Роберт Тышкевіч** і **Адам Мусюк** з Форуму меншасцей Падляшша — выбарчай прыстаўкі да тае партыі. Дэпутат Тышкевіч:

— Атрады капітана Бурага ўчынілі злачынства генацыду на тэрыторыі нашага ваяводства, у канцы студзеня і ў лютым 1946 г. І гэта гістарычная праўда ў гэтым выпадку, і аб гэтай праўдзе трэба гаварыць. Праўда не ў сярэдзіне, але — як кажа класік — ісціна ляжыць пасярэдзіне. Не выкарыстоўвайце трагічных старонак нашай гісторыі, каб дзяліць людзей, і абудзіць грамадскія страхі.

Адам Мусюк:

— Людзей гонару, для якіх слова «радзіма» было самым важным, нязломных салдат ставіцца ў адзін рад з людзьмі, якія не заслугоўваюць такой павагі.

На сайтах паказваецца адкрыты ліст прэзідэнту РП і польскаму прымасу: «(...) Арганізацыю маршу ў такой форме мы лічым правакацыяй і дэманстрацыяй варожасці. Гэта спроба перасварыць нашае этнічна і рэлігійна змешанае грамадства, а для пражываючых у Гайнаўцы сем'яў загінуўшых ахвяр «Бурага» гэта балючы ўдар. Па словах арганізатараў маршу, мае ён адправіцца з-пад касцёла Узвіжання Крыжа Гасподняга ў Гайнаўцы, а скончыцца імшой у касцёле святых Кірылы і Мяфодзія. Ці азначае гэта згоду Касцёла на прапагандаванне патрыятызму з выявай капітана Рамуальда Райса «Бурага», які падчас свайго крывавага рэйду забіваў жанчын і дзяцей? Мы занепакоеныя згодай улад Рымска-каталіцкага касцёла для такога роду дзеянняў і падтрымкі праектаў, якія не служаць суіснаванню каталіцкай і праваслаўнай абшчын». І ў заканчэнні: «Мы выказваем наш цвёрды супраціў для арганізавання такога роду маршаў у Гайнаўцы. Экспанаванне асобы, адказнай за злачынствы супраць этнічных і рэлігійных меншасцей, чые дзеянні натхнёны ідэяй «Польшчы для палякаў», выклікае нашу занепакоенасць. Для падпісання ліста запрашаем асобы, якім блізка ўзаемная павага, разуменне ў духу цярпімасці і суіснавання, годнай шматнацыянальнай традыцыі Рэчы Паспалітай». Подпіс: Жыхары Гайнаўкі і яе ваколіц. Ліст перад маршам падпісвае каля тысячы чалавек, у тым ліку асобы з-па-за Гайнаўкі.

49-гадовы гайнаўскі журналіст, не хаваючы левых поглядаў **Аркадзь Панасюк**:

— Гэта спроба такой духоўнай вайны: альбо мы, альбо яны. Альбо гэта цынізм і фанатызм арганізатараў маршу, альбо яны — мэтавая група, інспіраваная некаторымі службамі.

Гайнаўскі бургамістр **Ежы Сірак**:

— Погляды, якія ўяўляюць арганізатары маршу, спадзяюся, адасобленыя, у Гайнаўцы — маргінальныя. Таму іх заклік да прыезду аднадумцаў з усёй Польшчы. Для іх няма розніцы паміж нацыяналізмам і шавінізмам ды патрыятызмам.



Субота, 27 лютага. Гадзіна 10.40. Дарога з Беластока. За Заблудавам пяць паліцэйскіх машын маркі «Мерседэс» з закратаванымі вокнамі, з мігалкамі на дахах, нясуцца ў Гайнаўку. Холадна. За акном аўтобуса ПКС на дрэвах і палях шэрань. Жанчына сталага веку, цёпла захутаная, да вадзіцеля аўтобуса, пабачыўшы паліцэйскія машыны:

— А што такое, вайна, мусі, зноў будзе?

Прэс-аспірантка гайнаўскай камендатуры паліцыі **Ірэна Куптэль**:

— У нас ёсць дастаткова сіл, каб абараніць бяспеку і парадак падчас маршу. Выкарыстоўваем падмацоўку паліцэйскіх падраздзяленняў з-па-за Гайнаўкі, дапамагаюць нам беластоцкая прафілактыка і антытэрарысты. Адказнасць за ход маршу ўскладаецца на арганізатараў.

Гадзіна 11.50. На плошчы перад гайнаўскімі ўправамі горада, павета і гміны стаяць паліцэйскія «Мерседэсы». Пажылыя мужчыны дыскутуюць побач:

— Бургамістр павінен забараніць парад, але, хіба, не можа.

Паліцэйскія «Мерседэсы» збіраюцца на першы патруль.

Гадзіна 12.40. «Лясны дворык», рэстаран пад Беларускім музеем і цэнтрам беларускай культуры. На заднім плане жывыя, часам сентыментальныя песні... рускай эстрады. Частым госцем тут **Давід Палешук**, якога газеты называюць «czołowym hajnowskim kibolem-zadymiarzem». Добра складзены, сярэдняга росту, 25-гадок стаіць на чале Нацыянальнай Гайнаўкі. У дзеяннях падтрымлівае яго сястра Барбара. Збіраецца вакол яго каля пяцідзесяці маладых людзей. Браты, сёстры Палешукаў з Тэрэмісак. Выхаваны ў каталіцкай сям'і. Давід працуе ў Гайнаўцы ў прыватнай фірме. Мае вялікую судова-паліцэйскую картатэку. Асуджаны ў тым ліку за выкарыстоўванне мовы нянавісці. Уздымаў воклічы: «Polska dla Polaków! My ich załatwimy, jak nie, to powróci Hitlerjugend i oni to zrobią!». Гэта было пасля гайнаўскіх урачыстасцей з нагоды 3 мая 2012 года. У ходзе мерапрыемства з калегамі пускаў феерверкі і крычаў на мэра і іншых службовых асоб прысутных на цырымоніі: «Raz sierpem, raz młotem czerwoną hołotę!».

На сустрэчу перад маршам прыходзіць у «Лясны дворык» у спартыўнай куртцы. Пад ёю цёмная блуза з фотапартрэтам Салдат праклятых з фронту і з абодвух бакоў лозунгам «Śmierć wrogom ojczyzny»:

— Патрыятызм гэта вернасць нацыі і краіне, святкаванне нацыянальных святаў, павага да сцяга і герба. Гэта выяўляецца ў гонары і свядомасці, што ты — паляк, і трэба ганарыцца гэтым. У маёй канцэпцыі патрыятызму ёсць месца і для іншых народаў і рэлігій, якія знаходзяцца ў Польшчы. Не можа быць так, аднак, што меншасць навязвае правы большасці.

Афіцыянтка прыносіць на стол пахучую фруктовую гарбату.

— Прыкра мне, што былі нявінныя ахвяры «Бурага», але я ведаю, што быў адзін чалавек, які знаходзіцца на помніку ў Залешанах, і ён не з'яўляецца нявіннай ахвярай — гэта Аляксандр Зялінка, які, паводле дакументаў ІНП, быў камуністам з Чырвонай Арміі. Для сем'яў загінуўшых жанчын і дзяцей можна толькі паспачуваць. Тым не менш, гэта было не забойства па рэлігійнай або нацыянальнай прыкмеце. Я б паставіў свечку і ўсклаў кветкі для жанчын і дзяцей, таму што гэта выпадковыя ахвяры ўзброенай барацьбы. Наша шэсце — не правакацыя. Мы маем права на святкаванне Праклятых салдат. Калі б мерапрыемства арганізавала гайнаўская гарадская ўправа, ніякай праблемы не было б. Разам мы пайшлі б у адным маршы, але ўправа не хацела такіх святаў. Лагатып з «Бурым» рабілі не мы (толькі ОНР — Нацыянальна-радыкальны лагер — М. Х.), але экспануецца ўсімі трыма арганізатарамі як лагатып маршу. Улёткі з яго здымкамі не раздаваліся ў Гайнаўцы. Немагчыма, аднак, гаварыўшы аб Праклятых салдатах, забывацца пра «Бурага», але памятаючы і гаворачы, аднак, што былі і выпадковыя ахвяры, але і пра тое, як беларусы ставіліся да народнай улады. Гайнаўка з'яўляецца ідэальным месцам, каб аднавіць памяць аб Праклятых салдатах. На гэтай тэрыторыі дзейнічалі яны, а «Буры» тут хаваўся.

Дапівае гарбату:

— Тут, у Гайнаўцы, няма падзелаў тыпу я католік, ты праваслаўны. У мяне ёсць праваслаўная нарачоная і ў гэтым годзе мы хочам павянчацца ў царкве. Палітычныя лагеры ствараюць гэтыя канфлікты.

Выконваючы абавязкі дырэктара гайнаўскага музея і асяродка беларускай культуры 37-гадовы **Тамаш Ціханюк**:

— Два гады таму ў цэнтры Гайнаўкі мы часта бачылі такія групы ў пару дзясяткаў асоб, такіх заўзятараў-«кіболяў». Цяпер яны неяк менш прыкметныя. Верагодна, гэта мае адносіны з затрыманнем у апошні час дзясяткаў іх паліцыянтамі, якраз з Гайнаўкі. Некаторыя крыху супакоіліся, некаторыя, як я ведаю, адсюль збеглі. З Палешукам мы ведаем адзін аднаго, хто мы ёсць, але не вітаемся.




■ Давід Палешук



■ Брат Марцін Пякарскі



Гадзіна 12.30. На плошчы перад управамі горада, гміны і павета больш за дзясятак чалавек. Некалькі гайнаўска-беластоцкіх актывістаў СЛД развівае два банеры На адным: «Вечная памяць ахвярам «Бурага»». Хацелі несці яго падчас маршу, Паліцыя не дазволіла. **Кшыштаф Біль-Ярузельскі**, старшыня падляшскага Саюза левых:

— Асоба «Бурага» ненайлепш асацыюецца на гэтай тэрыторыі. Мы лічым, што

правядзенне маршу — правакацыя.

Гадзіна 13.30. Пад касцёлам Узвіжання Святога Крыжа збіраюцца першыя ўдзельнікі маршу. Давід Палешук, як каардынатар акцыі, паведаміў пра ўдзел 400 чалавек. Першыя паяўляюцца пажылыя актывісты беластоцкага клуба «Польскай газеты» і тройка крэпкага целаскладу мужчын сярэдняга ўзросту ў мундзірах перыяду Другой сусветнай вайны — прыехалі з Бытама. Сярод іх начальнік змены ў вугальнай шахце «Бельшавіцы» **Пётр Рыбарскі**:

— Пра мёртвых не гавораць дрэнна, асабліва калі сітуацыя ў дачыненні да іх неадназначная. Мёртвыя не могуць сябе абараніць. Справа «супакаення» беларускіх вёсак у Беластоцкім ваяводстве нявысветлена да канца. Гаворка на гэтым этапе, што «Буры» з'яўляецца забойцам ці стварыў генацыд, гэта аплёўванне нябожчыка. Як католік, я не магу пагадзіцца з гэтым. Вось чаму я тут.

Стаяўшая побач 70-гадовая **Яніна Карзінская**, старшыня клуба «Польскай газеты» ў Беластоку:

— Мы павінны, нарэшце, перастаць жэрціся і спрачацца! Дакуль гэта будзе, што будуць на нас вяршаць нейкія замежнікі, чорт вазьмі?!.

Дэманстранты ўтварылі калону. У пярэдняй частцы, акружанай з трох бакоў банерамі, мускулістыя, накачаныя ОНРаўцы, доўгі ў некалькі метраў шэры банер-здымак з выявай сямі Праклятых салдат, у тым ліку «Лупашкі», «Інкі» і вылучанага «Бурага» і надпісы ўверсе: «Гонар і слава героям». Збоку яшчэ даўжэйшы, з гэтым жа лозунгам у чырвоных і белых танах. Разгортваецца таксама каманда беларускага офіса першага канала расійскага дзяржаўнага тэлебачання. Яго журналіст **Аляксей Кручынін**:

— Гэта падзея цікавая і для беларускай, і расійскай публікі, таму што ёсць канфлікт інтарэсаў тых, хто называе сябе патрыётамі, якія пакланяюцца персоне неадназначнай у ацэнцы для нашай агульнай гісторыі і нашчадкаў беларусаў, якія жывуць тут, якія памятаюць страшныя падзеі 40-х гадоў, да чаго прывялі капітан Райс «Буры» і яго салдаты, якія былі ваеннымі злачынцамі. Цікава даведацца меркаванне тых, хто пакланяецца тым, у каго на руках кроў нявінных ахвяр іншага веравызнання і нацыянальнасці. Я хацеў бы ведаць матывацыю таго і іншага боку. Я хачу зрабіць справаздачу аб тым, наколькі падзяляецца па гэтай прычыне польскае грамадства. Пытанні па гэтай тэме таксама ставіцца да вышэйшага кіраўніцтва вашай дзяржавы.

Журналісты пытаюцца ў Багуслава Лабэндзкага — суарганізатара маршу, лідара Гістарычнага таварыства імя Дануты Седзікуўны «Інкі». Яшчэ ў «Лясным дворыку» Давід Палешук казаў пра яго:

— Пан Лабэндзкі мае шмат гістарычных ведаў і для гэтага яго варта паважаць. Мы супрацоўнічаем на ўзроўні нацыянальнага руху. Я не прыхільнік ПіС, ад якога ён з'яўляецца гарадскім радным, ані якой-небудзь іншай партыі.

**Багуслаў Лабэндзкі**:

— Сёння мы ўшаноўваем усіх салдат праклятых, а не толькі Рамуальда Райса, у тым ліку тых, што былі праваслаўнымі, яны служылі ў беларускіх камандах, таксама ў V Віленскай брыгадзе. Ахвяры з ліку мірнага насельніцтва, як і ў час іншых пацыфікацый у той час у рэгіёне Падляшша, былі выпадковымі. Мы павінны прынесці свае прабачэнні за гэта адзін аднаму. Кампенсацыя нявінным ахвярам з'яўляецца прадметам цывільнага права, а маральная павінна быць такой жа, як і за дэпартацыі польскіх грамадзян у Сібір і іншым ахвярам Другой сусветнай вайны.

❖ ❖ ❖

На плошчы каля Крыжаўзвіжанскага касцёла дэлегацыі ўдзельнікаў шэсця ўскладаюць кветкі да помніка ў памяць Студзеньскага паўстання. Некалькігадовая Мая разам з натоўпам прамаўляе «Катэхізім польскага дзіцяці» ад 1912 года. Дзяўчынка: — **Kto ty jesteś**? Натоўп: — **Polak mały**... Марш рушае ўперад. У пярэдняй частцы тры чалавекі дэлегацыі Беластоцкага клуба зняволеных, інтэрнаваных, рэпрэсаваных са сваім сцягам. У другім радзе пяць гарцэраў з бел-чырвонымі сцягамі і барабан. Натоўп скандзіруе: «**Na-rodowa, na-rodowa Haj-nó-wka!**», «**Cześć waszej pamięci żołnierze wyklęci!**», «Armio Wyklęta, Hajnówka o was pamięta!», «Armia Krajowa, niech żyje Armia Krajowa!», «Bóg, honor i ojczyzna!». Бліжэй скверу каля ўстаноў мясцовай адміністрацыі: «**Raz sierpem, raz młotem czerwoną hołotę!**», «**Precz z komuną!**», «**A na drzewach zamiast liści będą wisieć komuniści**». На шляху з групы гледачоў гучыць у іх бок:

— Фашысты!

— Буры забойца!



Багуслаў Лабэндзкі



Павел Гелажын

напружання. Натоўп выкрыквае тое, што не гучала раней: «To my, to my, Po-la-cy!», «Bury, Bury nasz bohater!». Ужо цяпер мы ведаем напэўна — раней абвешчанай арганізатарамі імшы не будзе. Парафіяльны святар, ксёндз **Збігнеў Браніцкі** не атрымаў на яе адабрэння ад свайго начальства, хоць у прыватным парадку духоўнік марш падтрымлівае. З іншага боку касцёла групка праваслаўных з выявай Хрыста і Залешанскай іконай Багародзіцы. Ачольвае яе брат **Марцін Пякарскі** з грэцкага манастыра святых Кіпрыяна і Юсціны ў Афінах. Ён родам з Гайнаўкі. Кончыў тут ліцэй з беларускай мовай навучання. У цяперашні час служыць у Грэцыі. Трымае

> **Мы жывем у горадзе (Гайнаўцы) мультыкультурным, шматканфесійным, у якім людзі ўступаюць у шлюб адзін з адным, нягледзячы на адрозненні, ствараючы сумесныя сем'і, ходзяць адзін да аднаго ў госці, вітаюць адзін аднаго на вуліцы. І я думаю, нельга рабіць чагосьці, што магло б сапсаваць гэтыя адносіны, і мы павінны зрабіць усё, каб гэтыя адносіны нармалізаваліся з кожным днём. Мы павінны сцярпець раны, якія ўжо загойваюцца (...).**

Шэсце спыняецца на плошчы перад адміністрацыйнымі ўстановамі. Прамаўляе дзяўчына з чорнымі доўгімі валасамі, апранутая ў цёмныя колеры, дваццаціпарагадовая **Барбара Палешук**, сястра Давіда. Яна настойліва заклікае дзень памінання салдат праклятых увесці ў каляндар афіцыйных святаў, якія адзначаюцца ў Гайнаўцы:

— Мы не згодны таксама на антаганізаванне жыхароў Гайнаўкі і Гайнаўскага павета і абвяшчанне таксама аб рэлігійных адрозненнях. Мы лічым, што ў атрадах незалежніцкага падполля было месца і для людзей розных веравызнанняў і нацыянальнасцей. Павага для іх усіх не з'яўляецца вынікам палітычнага рахунку, але любові да Радзімы, якая на працягу многіх стагоддзяў была Рэччу Паспалітай для паслядоўнікаў шматлікіх рэлігій.

За мікрафон бярэцца дваццацігадовы **Павел Гелажын**, астрыжаны коратка, у джынсах, член беластоцкага ОНР. Ён прафесійны кухар і, як шмат асоб тут, праваслаўны, і гэтым ганарыцца:

— Для нас, палякаў, гэта важная дата, асабліва тут, у Гайнаўцы. Сярод нас шмат людзей праваслаўных, і я вельмі ганаруся гэтым. Мне сорамна за тых, хто высмейваў нас, а падчас нацыянальнага гімна нават не зняў шапкі.

Шэсце рухаецца далей.

❖ ❖ ❖

Калона набліжаецца да касцёла святых Кірылы і Мяфодзія. Адчуваецца спад дзве копіі фотаздымкаў праваслаўных беларусаў, забітых «Бурым» і картку: «Ухвалянне такіх як «Буры» з'яўляецца дурнотай або правакацыяй, руйнуючай нацыянальнае адзінства». Пад сподам арол у кароне:

— Мы прыйшлі, каб паказаць, што мы нязгодны з гэтай маніфестацыяй, і мы спадзяемся, што ў бліжэйшыя некалькі гадоў яе не будзе. Яны толькі руйнуюць наша адзінства ў Польшчы. Трагедыя, якая адбылася з-за «Бурага» і яго салдат, дзеліць наша грамадства сёння. Выкліканыя раны не зажылі да сёння. Мы шкадуем аб тым, што тут у Гайнаўцы ёсць невялікія групы, якія будуць і далей дзяліць нас. «Буры» і яго салдаты зганьбавалі гонар польскіх жаўнераў.

Дэлегацыя ўскладвае ў прытворы касцёла букеты кветак да памятнай дошкі ў гонар «Лупашкі» і «Інкі»". Нечакана брат Пякарскі ўручае Багуславу Лабэндзкаму ікону Залешанскай Багародзіцы. Абодва не выключаюць, што можа прыйсці да супольнай малітвы за палякаў і беларусаў, католікаў і праваслаўных, над магілай салдат Зыгмунта Блажаевіча «Зыгмунта» з V Віленскай брыгады Арміі Краёвай, якія загінулі ў сутычцы з НКВД у Тапіле.

Гадзіна 15. Марш распускаецца. Насупраць касцёла святых Кірылы і Мяфодзія працягваецца дыскусія некаторых мясцовых удзельнікаў маршу:

— Тут гаворка аб звычайным забойцы!

— А чаму вы, пані, у 1945 годзе не з'ехалі на Усход?

— А мы ж тут у сябе дома! Я праваслаўная, але ганаруся Польшчай і паважаю, але ў Польшчы я была з маёй сям'ёй пакрыўджана.

— Мы былі тут ад заўжды. Ад дзядоў, прадзедаў!

❖ ❖ ❖

Яшчэ перад Узвіжанскім касцёлам **Артур Завіша** з заўсёднымі чорнымі вусікамі ахвотна фатаграфуецца на фоне ОНРаўскага банера з «Бурым». Гэты адзін з лідараў Нацыянальнага руху і Хрысціянска-нацыянальнага згуртавання за тыдзень да маршу публікуе «зварот у абарону памяці і гонару Рамуальд Райса «Бурага»»: «Дзеянні капітана «Бурага» былі ў межах канонаў эпохі, прыведзеных напрыклад, у працы «De virtute militari. Вайсковая этыка» манаха, этыка і салдата праф. Юзэфа-Марыі Бахенскага. Вядома, мы павінны шкадаваць любыя нявінныя ахвяры баявых дзеянняў у забудаваных драўлянымі дамамі раёнах, якія пацярпелі смерць без намеру і дзеянняў камандавання ў выніку гвалтоўнай дынамікі на полі бою (...). У дадзеным канкрэтным выпадку, падставай для абвінавачвання з'яўляюцца паказанні сведак, якімі ў асноўным з'яўляюцца пабрацімы, нашчадкі і прыхільнікі людзей, якія страцілі свае жыцці ў выніку ваенных дзеянняў III Віленскай брыгады НЗВ. Мы павінны быць вельмі асцярожнымі, каб аказаць давер паказанням гэтых сведак, і нават крытычна выказаць здагадку, што яны загадзя неспрыяльныя для «Бурага», разглядаючы як гістарычны і палітычны працаўнік пракамуністычнага асяроддзя ў рэгіёне Падляшша, асабліва сярод беларускага насельніцтва». Пад заклікам ёднее подпіс Багуслава Лабэндзкага. Гэты тэкст Артура Завішы чытае раней пад гарадскімі ўстановамі, прызнаючыся да праваслаўя, член ОНР Павел Гелажын.

Дыскусія на ТБ Падляссе яшчэ даступна на канале Youtube. Адзін з яе гасцей **Сяргей Нічыпарук**, герой фільма Юрыя Каліны «Сярожа», чые члены сям'і ў 1946 годзе былі спалены атрадам «Бурага» ў Залешанах, у тым ліку непаўналетнія браты:

— Мы жывем у горадзе (Гайнаўцы) мультыкультурным, шматканфесійным, у якім людзі ўступаюць у шлюб адзін з адным, нягледзячы на адрозненні, ствараючы сумесныя сем'і, ходзяць адзін да аднаго ў госці, вітаюць адзін аднаго на вуліцы. І я думаю, нельга рабіць чагосьці, што магло б сапсаваць гэтыя адносіны, і мы павінны зрабіць усё, каб гэтыя адносіны нармалізаваліся з кожным днём. Мы павінны сцярпець раны, якія ўжо загойваюцца (...). У кожнага з нас ёсць розум і сумленне. Давайце выкарыстоўваць гэта найлепшым чынам.

Аспірант **Ірэна Куптэль** лічыць, што ў маршы прынялі ўдзел каля 200 чалавек:

— Шэсце праходзіла мірна і бяспечна. Без інцыдэнтаў.

❖ **Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Праверка ведаў і ўмеласцей па беларускай мове

Ваяводскія элімінацыі Прадметнага конкурсу па беларускай мове для вучняў падставовых школ адбыліся 24 лютага ў Комплексе школ з датковым навучаннем беларускай мовы імя Ярослава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім. Прынялі ў іх удзел 35 вучняў. Адборачныя змаганні завяршылі праверку ведаў і ўмеласцей па беларускай мове, якія раней адбываліся на ўзроўні школ і раёнаў. Да ваяводскага этапу конкурсу дайшлі лепшыя навучэнцы беларускай мовы Беласточчыны, якія наогул добра справіліся з задачамі конкурснага тэста.

Хаця конкурс афіцыйна адбываўся ў бельскай «тройцы», то само пісанне тэстаў праходзіла ў спартыўнай зале ліцэя з беларускай мовай навучання, якая спалучае абедзве школы. Вучні, якія датэрмінова справіліся з тэстам, гаварылі, што тэст не быў складаным, але некаторыя пытанні маглі выклікаць цяжкасці.

Пераможцамі конкурсу звычайна становяцца вучні, якія многа часу рыхтуюцца на ўроках і пазаўрочных занятках пад наглядам настаўнікаў беларускай мовы. Педагогі ведаюць адметнасці прадметнага конкурсу па роднай мове і аб'ём матэрыялу, які ахопліваюць конкурсныя пытанні.

— Тэст не быў цяжкім, але і не быў лёгкім. Мы не ведаем, ці нечага не пераблыталі, калі ставілі пытанні да тэксту. Справіліся мы з задачамі наконт твораў, але не ведаем, ці не зрабілі там нейкіх памылак. Хваляемся таксама, ці няма памылак па граматычных пытаннях. Мы рыхтаваліся да конкурсу на ўроках беларускай мовы, пасля заняткаў і дома, — заявілі вучаніцы Аня Радзівончык, Дар'юш Ясвіловіч і Эмілія Скепка з Нараўкі, дзе беларускай мове вучаць Ліля Тарасевіч і Анна Кандрацюк.



■ Удзельнікі ваяводскіх элімінацый Прадметнага конкурсу па беларускай мове

— Задачы ў асноўным былі простымі. Больш складанай была граматыка, — сказалі Ксенія Клімюк, Марта Зубрыцкая і Дам'ян Хаманюк з ПШ № 4 у Беластоку, якіх да конкурсу рыхтавала Аліна Ваўранюк. Вучні ўдакладнілі, што ў тэсце трэба было ў вершы ўставіць у адпаведнай форме прыметнікі, выканаць задачу з аканнем, уставіць літары «у» і «ў». Да тэксту «У старых дубах» трэба было саставіць план здарэнняў і адказаць на пытанні па геаграфіі Беларусі, пералічыць краіны, якія мяжуюць з Рэспублікай Беларусь, назваць яе сталіцу і рэкі. У вершы «Люблю наш край» трэба было ўставіць неазначальныя займеннікі.

— Больш складана было працаваць па граматыцы, дзе трэба было, між іншым, падабраць адпаведныя прыметнікі. Апошнім часам мы многа рыхтаваліся, — сказалі Алеся Буткевіч, Эмілія Калодка і Аляксандра Паўлючук са школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, якіх да конкурсу рыхтавала Іаанна Марко. Беластоцкіх дзетак прывезла Юліта Сушч, якая таксама вучыць беларускай мове ў Кірыла-Мяфодзіеўскай школе.

— Нам найбольш складана было падрыхтаваць план здарэнняў да тэксту «У старых дубах». Ведалі мы рэкі, азёры і сталіцу Беларусі, а таксама суседзяў Рэспублікі Беларусь, — заявілі Іаанна Хамчук, Андрэй Бабулевіч, Эва Іванюк і Дам'ян Іванюк з ПШ № 6 у Гайнаўцы.

— Андрэй Бабулевіч набраў максімум балаў магчымых да здабыцця падчас раённых элімінацый. Іншыя вучні з нашай школы таксама ўдала справіліся з папярэднім тэстам. Як было сёння, акажацца пасля праверкі тэстаў з ваяводскіх элімінацый. Мы працавалі па ўсім матэрыяле, паводле якога састаўляліся пытанні да сённяшняга тэста. Аднак вучні хвалююцца падчас конкурсаў і таму можа атрымацца па-рознаму, — сказала настаўніца Людміла Грыгарук з ПШ № 6 у Гайнаўцы.

— У гэтым годзе амаль палову ўдзельнікаў ваяводскіх элімінацый саставілі вучні

працяг ☞ 11

Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны

Вітаем

# www.skaryna.org.uk

Адным з цэнтраў беларускасці за мяжой з'яўляецца Лондан. Пачынаючы ад заканчэння Другой сусветнай вайны, там асядалі беларусы, якія па розных прычынах маглі асцерагацца за сваё жыццё пад уладай камуністаў. Пэўна, паветра адной з найбольш развітых краін Еўропы зрабіла іх дбайнымі захавальнікамі беларускай культуры ў замежжы. Прыкладам гэтаму з'яўляецца Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны ў Лондане, ці па-іншаму — „Скарынаўка".

Сайт „Скарынаўкі" месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.skaryna.org.uk** і, створаны на платформе WordPress, выглядае даволі сціпла, але ў той жа час прывабна. Позірк на ім засяродзяць тыя, каму будзе залежаць на знаёмстве з інтэлектуальнай спадчынай лонданскіх беларусаў. Праўда, знаёмства з фондамі бібліятэкі будзе даволі павярхоўным пакуль не наведаеш яе ў рэальнасці, бо пагартаць старонкі тых кніг віртуальна не атрымаецца. І пра гэта распавядаецца на галоўнай старонцы ў прэзентацыі ўстановы.

„Як частка беларускай супольнасці ў Злучаным Каралеўстве, бібліятэка захоўвае культурную спадчыну беларусаў, умацоўвае жыццё гэтай супольнасці праз доступ да культурных артэфактаў у розных формах, садзейнічае і папулярызуе акадэмічнае беларусазнаўства, і заахвочвае зацікаўленне Беларуссю сярод брытанскага грамадства. Бібліятэку можна наведаць для карыстання яейнымі зборамі задарма. На дадзены момант, усе матэрыялы даступныя для карыстання толькі ў чытальнай залі", — распавядаюць захавальнікі кніжнага скарбу, першым збіральнікам якога стаў уніяцкі святар айцец Аляксандр Надсан. Паводле сайта культурніцкай кампаніі „Будзьма беларусамі" Надсан пачаў збіраць яго ў 1971 годзе. „Ён сачыў за кніжнымі аўкцыёнамі, падтрымліваў сувязі з букіністамі і беларускімі дыяспарамі, каб набываць кнігі, карты, архівы, каштоўныя рэчы, звязаныя з Беларуссю. У фондзе бібліятэкі больш за 40 000 выданняў", — распавядаецца там.

Айцец Надсан памёр у красавіку мінулага года, але на сайце „Скарынаўкі" можна пабачыць відэа, зробленае Радыё Свабода, дзе ён кажа пра шмат якія кнігі бібліятэкі, раскрывае іх карысць. Відэа змешчана на старонцы „Пра нас". Там таксама падаецца пералік асоб — сяброў „Бібліятэчнай рады", якія цяпер шчыруюць на беларускай бібліятэчнай ніве ў Лондане.

Своеасаблівая стужка навін на сайце бібліятэкі месціцца на старонцы „Блог". Яна пачынаецца з мая 2015 года, акурат пасля таго, як не стала Надсана. З таго часу абнаўляецца даволі часта і зямешчае цікавыя і карысныя артыкулы. Адтуль можна даведацца, што пра „Скарынаўку" піша нават часопіс адзінай беларускай авіякампаніі „Белавія", які чытаюць падчас палётаў яе пасажыры.

Уласна пра выданні, якія знаходзяцца ў бібліятэцы, віртуальны наведвальнік можа даведацца, калі зазірне на старонку „E-archive". Праўда, пакуль там месціцца шэраг нумароў часопісаў „Зніч" (1950-1974 гг.) і „Божым шляхам" (1947-1980 гг.). Электронныя версіі іншых часопісаў і выданняў, як сцвярджаецца ў „E-archive", плануюцца да стварэння.

Інфармацыя пра новыя паступленні ў бібліятэку знаходзіцца на аднайменнай старонцы. Дарэчы, за год „Скарынаўка" папоўнілася дзясяткамі новых кніг і перыядычных выданняў.

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

Кіраваўся Божым шляхам

# 105 гадоў з дня нараджэння Льва Гарошкі



Леў Гарошка — імя на сёння вядомае далёка не кожнаму нават адукаванаму беларусу. А між тым гэта выдатны беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, грэка-каталіцкі святар, архімандрыт, даследчык гісторыі рэлігіі ў Беларусі, культуролаг, літаратар, аўтар многіх артыкулаў, кніг. Нарадзіўся ён 11 сакавіка 1911 г. у вёсцы Трашчычы на Навагрудчыне (мясцовасць у Карэліцкім раёне). Паходзіў з вельмі беднай сям'і праваслаўных беларусаў з уніяцкімі традыцыямі.

Вучыўся Леў Гарошка ў Навагрудскай беларускай гімназіі (у 1923-1931 гг.). Пры падтрымцы і пратэкцыі дырэктара Яна Цеханоўскага і дырэктара беларускага музея ў Вільні Антона Луцкевіча паступіў у Львоўскую грэка-каталіцкую багаслоўскую акадэмію, дзе навучаўся ў 1931-1936 гг. Пасля заканчэння Акадэміі накіраваны для далейшага навучання ў аўстрыйскі Інсбрук. У 1936-1937 гг. навучаўся там у каталіцкім Багаслоўскім інстытуце як стыпендыят львоўскага грэка-каталіцкага мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. 17 кастрычніка 1937 г. з благаславення гэтага мітрапаліта Гарошка быў высвечаны на святара ўкраінскім біскупам Мікітам Будкам у прыватнай капліцы мітрапаліта ў Львове. Першую Боскую літургію на Бацькаўшчыне святар адслужыў ва ўніяцкай парафіі Дзяляцічы на Навагрудчыне. Самастойную душпастырскую працу пачаў на Палессі ў Пінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі. Служыў у парафіях Угрынічы, Гарадная (Столінскі раён), Стоўпцы, Збураж (Маларыцкі раён). Пераследаваўся за сваю душпастырскую і асветніцкую дзейнасць тагачаснымі польскімі ўладамі, цэлы час знаходзіўся пад наглядам паліцыі.

Пасля стварэння ў верасні 1939 г. Беларускага экзархата ГКЦ і прызначэння ў 1940 г. першым беларускім экзархам у XX стагоддзі Антона Неманцэвіча, айцец Леў быў абраны ў Раду экзархата і стаў яго намеснікам. У час Другой сусветнай вайны Гарошка жыў у Баранавічах, працаваў настаўнікам беларускай і лацінскай моў у гандлёвай і медычнай школах, рэдакцыях беларускіх газет. Браў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе ў Мінску. У канцы вайны разам з хваляй эміграцыі апынуўся на Захадзе: спярша ў Берліне, а пасля ў Мюнхене, дзе арганізоўваў беларускі хрысціянскі рух. З восені 1945 г. жыў у Рыме, дзе разам з айцамі Чэславам Сіповічам і Пётрам Татарыновічам шмат дапамагаў беларускім вайскоўцам, якія апынуліся ў Італіі ў складзе Другога Корпуса польскай арміі.

У 1946 г. выдаў беларускі малітоўнік «Божым шляхам», актыўна збіраў сродкі і выдаваў «Беларускія навіны» (выдаваліся ў Парыжы шматтысячным накладам і рассылаліся беларусам па ўсім свеце — ад Скандынавіі да Афрыкі і Амерыкі. Дзякуючы яму назва Беларусь пачала займаць належнае месца ў дакументах Каталіцкай царквы.

У Парыжы а. Леў Гарошка ў 1947-1957 гг. рэдагаваў і выдаваў беларускі рэлігійна-грамадскі часопіс «Божым шляхам». Затым выехаў у Рым, дзе ўступіў у навіцыят айцоў-марыянаў. У 1960 г. біскупам Сіповічам накіраваны ў Лондан, прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі. Быў ігуменам манаскага дому айцоў-марыянаў. У 1965 г. стаў архімандрытам. Браў актыўны ўдзел у рэлігійным і культурным жыцці беларускага замежжа, быў сябрам Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. У 1970-1977 гг. а. Леў кіраваў Беларускай службай Радыё Ватыкан і быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

Памёр архімандрыт Леў Гарошка ў шпіталі ў Парыжы 28 ліпеня 1977 г. Пахаваны на могілках св. Панкрата ў Лондане.

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞ працяг

з Беластока — з ПШ № 4 і з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы (прыехалі па 8 вучняў з кожнай школы — А. М.). Павялічваецца ў нас колькасць навучэнцаў беларускай мовы, дзеткі ахвотна прыступаюць да конкурсу па беларускай мове. Я паўтараю вучням, каб не выходзілі з конкурсу перад часам адведзеным для пісання, каб уважліва правяралі напісанае, выпраўлялі памылкі, — сказала настаўніца ПШ № 4 у Беластоку Аліна Ваўранюк.

— Задачы не былі складанымі і мы справіліся з імі. Больш трэба было задумацца над задачамі па граматыцы, каб не зрабіць памылак. Адказваць на пытанні да тэкстаў было лягчэй, — заявілі Мікола Здрайкоўскі, Іван Карсунскі і Кандрат Косцін з ПШ № 4 ў Беластоку.

Якуб Казімірук са школы ў Новым Корніне, якога да конкурсу рыхтавала настаўніца Ніна Куптэль, таксама сказаў, што конкурс не быў складаным. Яго бацька, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Новым Беразове протаіерэй Іаан Казімірук сказаў, што Якуб таксама дэкламатар і ўдзельнічае ў конкурсе «Роднае слова», а старэйшы сын Адрыян Казімірук, зараз студэнт, быў лаўрэатам алімпіяд па беларускай мове і іншых прадметах.

Цэлы час, адведзены для напісання конкурснага тэста, выкарысталі, між іншым, некалькі вучняў бельскай «тройкі». Яны сказалі, што правяралі напісанае, каб не зрабіць памылак.

— Трэба было ўважліва адказваць на пытанні да тэкстаў і задумацца наконт граматыкі. Мы разважалі, як правільна падабраць прыметнікі і думалі, як правільна ўставіць літары. Мы рыхтаваліся да конкурсу на ўроках беларускай мовы з настаўнікам Андрэем Марозам і на пазаўрочных занятках. Нам падабаюцца заняткі беларускай мовы, — гаварылі Вікторыя Раеўская, Нэля Паўлючук, Юлія Календа і Ігар Зіноўчык з бельскай «тройкі».

Ілья Фіёнік, якога да конкурсу рыхтаваў настаўнік Яраслаў Падолец, з тэстам справіўся датэрмінова. Сказаў ён, што рады свайму ўдзелу ў беларускім конкурсе і ахвотна вучыцца беларускай мове.

Віцэ-старшыня конкурснай камісіі Міраслава Маркевіч пасля завяршэння пісання тэстаў заявіла, што хаця ўсе пытанні вынікалі з матэрыялу, на аснове якога вучні рыхтаваліся да конкурсу, то задачы не былі лёгкімі. Трэба было ўважліва выказвацца наконт тэкстаў і пазбягаць памылак у практыкаваннях па граматыцы. Часта вучням спачатку здаецца, што пытанні лёгкія, а пасля аказваецца, што атрымаліся памылкі.

Калі пішу гэты артыкул, абвешчана ўжо колькі балаў здабылі паасобныя ўдзельнікі ваяводскіх элімінацый конкурсу і можна назваць прозвішчы канкурсантаў, якія набралі найбольш балаў. Пазней афіцыйна будуць названы фіналісты і лаўрэаты конкурсу.

Максімальную колькасць, 60 балаў, набраў Мікола Здрайкоўскі з ПШ № 4 у Беластоку. На другім месцы з 59 баламі апынуліся Дам'ян Бусловіч, Анна Гадзінская, абое з бельскай «тройкі» і Якуб Казімірук з ПШ у Новым Корніне. На трэцім месцы з 58 баламі былі Іаанна Хамчук з ПШ № 3 у Гайнаўцы і Анна Радзівончык з ПШ у Нараўцы. Чацвёртае месца з 57 баламі занялі Эва Іванюк з ПШ № 3 у Гайнаўцы, Аляксандра Паўлючук з НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку і Барбара Паўлючук з ПШ у Чыжах. Набралі 56 балаў і занялі пятае месца Марыя Савіцкая з НПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Андрэй Бабулевіч з ПШ № 6 у Гайнаўцы і Канстанцін Лукашэвіч з ПШ № 4 у Беластоку.

Настаўнікі беларускай мовы вучаць на ўроках роднай беларускай мове і нашым традыцыям, знаёмяць дзетак і моладзь з беларускай літаратурай і культурай. Усё гэта ў большай або меншай ступені спрычыняецца да фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці вучняў. Ёсць настаўнікі беларускай мовы, якіх вучні штогод або амаль штогод становяцца лаўрэатамі або фіналістамі прадметнага конкурсу па беларускай мове і гэта заахвочвае вучняў да актыўнасці ў вывучэнні роднай мовы. Наогул вучні невялічкіх вясковых школ зрэдку становяцца лаўрэатамі або фіналістамі прадметных конкурсаў. Аднак прыклад Якуба Казімірука з Новага Корніна, які набраў 59 балаў, паказвае, што вучні невялікіх школ могуць перамагаць калег з гарадскіх школ.

❖ **Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# 13.03 — 19.03

**(22.03. — 20.04.)** Не будзе для цябе немагчымага. Дасі рады з усім, нават з нечаканымі перашкодамі. У закаханых гайданка падзей і пачуццяў. Сонца распраменіць цябе і тваіх сяброў, дазволіць сабраць сілы на змены. Трымайся здаровай дыеты, больш варушыся, схадзі да лекара.

**(21.04. — 21.05.)** Як найхутчэй афармляй неадкладныя справы. Сонца будзе падтрымліваць усе твае задумы. 14.03. не дамаўляйся на любоўныя сустрэчы, калі думаеш кідаць. 15.03. дамаўляйся з шэфам пра павышэнне, або падумай аб тым, каб сысці з гэтай работы. 17.03. могуць прыйсці прапановы працы, аб якой марыш; шчасце паставіць на тваёй дарозе ўплывовую асобу!

**(22.05. — 22.06.)** 14.03. маеш гарантаваны любоўны экстаз! Штораз лепш са здароўем. Пару знаёмых будзе расчараваных, што не дзейнічаеш у кампаніі. Але вернецца твой добры настрой і пачуццё гумару. Нават зрок табе папpавіцца, бо ўбачыш кагосьці, хто ўглядаецца ў цябе як у карцінку!

**(23.06. — 23.07.)** Зоркі цябе развэрушаць. Можа, схочуць праверыць, з чым ты дасі рады і фундануць табе шмат выклікаў. Не сядзі ў цёмным куце і не марудзь, і не спатыкайся з панурымі людзьмі. Пасля 17.03. пазнаёмішся з кімсьці, хто адменіць тваё жыццё! Можа хтосьці стаць табе любай асобай, можа пацягнуць цябе да людзей і падзей. 17.03. набярэш самаўпэўненасці і адвагі ды не пабаішся рызыкнуць. Дбай аб здароўе; парайся ў лекара асабліва наконт сваёй шчытавідкі — можа з-за яе таўсцееш?

**(24.07. — 23.08.)** Час спакойны, хаця не пазбаўлены цікавых здарэнняў. Поспехі, якіх не спадзяешся, прымеш з задавальненнем і годнасцю. Здабыванне дабра і прызнання будзе цяпер для цябе лягчэйшым. Можаш дабіцца кіраўніцтва! 15.03. могуць прыйсці новыя весткі і павышэнні.

**(24.08. — 23.09.)** Павер, свет без твайго кантролю зусім не заблукаецца! А блізкія, якім дазволіш жыць па-свойму, будуць кахаць цябе яшчэ больш. Больш «люзу»! І займіся цяпер сабою. Калі ты жанчына, захопіш больш, калі будзеш поўная сексапілю, а не будзеш «цвёрдай бабай», якая з усім справіцца адна. 17.03. паверыш урэшце ў сваю вабнасць і пачнеш больш дбаць аб сябе! І можа прытрапіцца табе дадатковы грош.

**(24.09. — 23.10.)** Найлепш дасі рады з усім, калі прыспешыш. Злазь з клячы, перасядзься на агністага аргамака! Тваё жыццё рушыць у чаканым напрамку. А камфортна адчуеш сябе, калі ўпадуць проста з неба большыя грошыкі. Але ж магчымыя нялёгкія размовы і расставанні (найлепш спраўся з гэтым цяпер, да 25.03.).

**(24.10. — 22.11.)** Трохі будзе дзеяцца! У тваім жыцці ніколі не бывае нудна, але пастарайся не фундаваць сабе зашмат эмоцый адразу. Пасля нялёгкіх рашэнняў належыцца табе «святы спакой». А маеш многа энергіі і імпэту. На працы пільнуй, каб табе належна плацілі, але не спрачайся з шэфам, бо можаш нарабіць скандалу па-за межамі фірмы. У каханні можа быць няўдача, калі ты інвеставаў у пачуцці без шанцаў. З 16.03. твая краса проста расквітнее. Але 17.03. пільнуйся, можаш быць лішне імпульсіўным. Добра высыпайся, дбай аб свае насавыя пазухі (затокі).

**(23.11. — 22.12.)** Працавіты, але і эмацыйны час. Не ўсё пойдзе так, як хацелася б, але не адмаўляйся ад рамантычных прыгод. 14.03. маеш гарантаваную рамантычную сустрэчу са сваім ідэалам! Калі ты самотны — актыўна шукай сваёй палавінкі. Можаш закахацца з першага пагляду! Пільнуй свайго бюджэту — заўтра не абанкруцішся, але разважна інвестуй. Не бяры ў сакавіку ніякіх пазык, нават невялікіх! Схадзі да акуліста.

**(23.12. — 20.01.)** Будзе пад гарачку, іншыя не далі б сабе рады, але для цябе не будзе спраў немагчымых. Неператамляйся на працы — працавітасць вартая пахвалы, але не працагалізм (асабліва 15.03.)! Горача ў пачуццях 11 і 12.03.! Супакоішся і сцішышся 12.03. 14.03. аддайся жарсным пачуццям.

**(21.01. — 19.02.)** Ты далей удачлівы, зоркі спрыяюць, хоць могуць і зводзіць. Калі загубішся, дык толькі ў любоўным пыле. Можаш з 11.03. пачаць сямейныя медыяцыі, пераканаць сваіх сваякоў, каб не звальваліся, напрыклад, бацькам на галаву. 17.03. не дай сябе вывесці з раўнавагі (пытанне: хто тут найважнейшы?!).

**(20.02. — 21.03.)** Шанцы на поспех, аднак трэба будзе пастарацца, каб напіцца шампанскага. 12, 13 і 14.03. дай сабе час на гарачыя гульні. 14.03. вельмі пільнуйся, каб не страціць грошай і каштоўнасцей; гэта можа прывесці да дэпрэсіўных настрояў. Будзь асцярожны з вострымі прадметамі!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Газеце беларусаў Польшчы „Ніва” — 60!

60 гадоў таму, 4 сакавіка 1956 г., у Беластоку выйшаў першы нумар тыднёвіка беларусаў Польшчы „Ніва”.

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” віншуе калектыў рэдакцыі і ўсіх чытачоў газеты „Ніва” з юбілеем.

60 — немалы шлях для чалавека, тым больш для перыядычнага выдання. Ведаем, што гэты шлях быў для „Нівы” няпростым. Газета зазнала і забарону распаўсюду ў Беларусі, і судовы працэс супраць сябраў Праграмнай рады тыднёвіка, і фінансавыя ды іншыя складанасці... Тым не менш, нягледзячы на ўсе цяжкасці, газета здолела захавацца. Дзякуючы адданай працы рэдактараў і супрацоўнікаў яна працягвае жыць і развівацца, і, што вельмі важна, радаваць сваіх чытачоў і падпісчыкаў цікавымі матэрыяламі!

„Ніва” з'яўляецца знакавай пляцоўкай для многіх журналістаў і пісьменнікаў, актуальнай крыніцай інфармацыі пра беларускае жыццё ў Польшчы не толькі для саміх беларусаў Польшчы і Беларусі, але і для даследчыкаў жыцця беларускай нацыянальнай меншасці. Газета выкарыстоўваецца ў якасці дапаможніка ў школах Беласточчыны з вывучэннем беларускай мовы і, такім чынам, мае надзвычай важнае значэнне ў справе далучэння маладога пакалення да беларускай культуры, і галоўнае — „Ніва” ёсць тым сродкам камунікацыі, які лучыць беларусаў Польшчы ў адзіную супольнасць.

Яшчэ раз віншуем „Ніву” з юбілеем і жадаем супрацоўнікам рэдакцыі і галоўнаму рэдактару Яўгену Вапу добрага здароўя, творчага натхнення ў працы, пазітыўных навінаў, пашырэння кола чытачоў, далейшых поспехаў у справе папулярызацыі беларускай культуры ў Польшчы.

**Управа МГА „ЗБС «Бацькаўшчына»”**

Эдуард **АКУЛІН**

## «Ніве» — 60!

Каб хто з вас ведаў, як я рад!
Адно з другім супала...
Любімай «Ніве» — 60!
Не так ужо і мала...
Як дыямент у сто карат,
што грэе сэрца Бога —
Любімай «Ніве» — 60!
Ды хіба гэта многа?
Ці дождж, ці суш, ці снегапад —
жыве і не старэе...
Любімай «Ніве» — 60!
Віншую з Юбілеем!

6.03.2016 г., Беласток

## Руплíўцам з «Нівы»

Вам — нязломленым Духам,
Вам — пушчанскім Зубрам!
Вам — адолеўшым Скруху,
Вам — братам і сябрам
Я кажу, як умею,
Так, як Бог загадаў:
— «Ніву» й Вас з Юбілеем!
Не здавацца гадам!

7.03.2016

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. лічыльная дошка ў старажытных грэкаў і рымлян = 20 _ 24 _ 6 _ 29 _;
2. суседка Еўропы = 25 _ 28 _ 30 _ 31 _;
3. горад Моцарта, Фрэйда і Метэрніха = 7 _ 23 _ 22 _ 8 _;
4. пад навушнікамі = 26 _ 27 _ 13 _ 14 _;
5. горад з Хрэшчатыкам = 17 _ 18 _ 3 _ 21 _;
6. назойлівыя сухія часцінкі, якія можна... пускаць у вочы = 2 _ 12 _ 5 _;
7. горад Прыама, Гектара і Парыса = 11 _ 9 _ 10 _ 19 _;
8. вучэбная гадзіна = 1 _ 15 _ 16 _ 4 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Пядзя, багацей, монстр, дуга, чорт, дама, смык, хор, люк, марш, шылінг, Беседзь, псіхолаг.

Рашэнне: **Дзяцей страшым чортам, а дарослых людзьмі**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Ганне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (35)

Дзесяць хвілін да шлюбу каля марочнянскай царквы радасна засігналілі клаксаны самаходаў. Гул абвяшчаў векапомную падзею, новы пачатак. Сам шум і каларыт шлюбнага шэсця быў хутчэй данінай у бок традыцыі. На вуліцы паранейшаму панавала бязлюддзе і цішыня. Ніхто з мясцовых не прыпёрся паглядзець на маладых, асудзіць іх выгляд і паводзіны ды па прыкметах прадказаць ім будучыню. Дзе прапала прыродная цікавасць сялян? Яшчэ адносна нядаўна вясковыя веселлі ўзбуджалі вялікі зрух і спадзяванні. Выпадковы ўдзельнік мог разлічваць не толькі на дармовы пачастунак і добрую забаву. Ён мог яшчэ падключыцца да авантуры ці іншай прыгоды. Зараз падзея цікавіла толькі запрошаных гасцей.

На вяселлі Алены і Аляксандра састаў гасцей не быў выпадковы. З'явіліся родныя, хросныя бацькі, сваякі, бліжэйшыя сябры. Маладыя прыехалі ў царкву на адной, прыаздобленай зялёнымі шарыкамі машыне. Яны аднак не спяшаліся першымі пакінуць аўтамабіль. Ды і апошнія ўдзельнікі ведалі, калі і ў якой чарговасці трэба ім падаца ў царкву. Усе чакалі ў машынах. Спех, які на пачатку здаваўся прызнакам сучаснасці, зараз набыў разлезлы рытм і стары парадак...

Урэшце вяселле рушыла з месца. На чале шэсця крочылі маршалак і сваты, усе перавязаныя вышыванымі ручнікамі. Кожны з іх нёс каравай на падносе прыаздобленым ручніком. За імі, з іконай Божай Маці, у суправаджэнні стройных сватоў, ішла маладая. Далей вялі маладога. Яго эскорт складалі старшыя дружкі, абедзве апранутыя ў белыя кашулі і зялёныя спадніцы. Маладыя ў руках тулілі ікону Ісуса Хрыста, якая таксама была загорнутая ў вышываны ручнік. Усе рэквізіты — ручнікі і караваі, выяўлялі «вясельныя» ўзоры агульныя для цэлай Украіны. Іх колькасць значна падбівала кошт вяселля. Аднак ніхто не наракаў. Наадварот, вялікая колькасць ручнікоў, хай сабе і прамысловай вытворчасці, прамаўляла ў карысць маладой як таленавітай рукадзельніцы. І хутчэй за ўсё гэта быў паклон у бок мясцовай традыцыі.

* * *

Краязнавец Рыгор Яцута, на прыкладзе роднага Залужжа, што на Дубровіччыне, апісаў традыцыйнае палескае вяселле. Некаторыя абрады практыкавалі яшчэ ў 80-я гады XX стагоддзя. Пачаткам вясельных падрыхтовак, — адзначае Яцута, — быў выбар адпаведнай дзяўчыны. Гэтым займаліся бацькі хлопца, яны дамаўляліся з бацькамі маладой і не заўсёды бралі пад увагу жаданне сына. Калі бацькі маладой былі зацікаўленыя замужжам, да іх пасылалі сватоў. У сваты хадзілі ў сераду або ў пятніцу. У гэтай кампаніі абавязкова прысутнічаў хросны бацька хлопца. Калі сваты знаходзілі паразуменне з бацькамі дзяўчыны, у знак згоды абменьваліся хлебам. Пасля гэтага ладзілі запоіны. У мерапрыемстве прымала ўдзел ужо большая колькасць сваякоў. Тады якраз маладая ўпершыню даравала рукадзелле будучай радні — мужчынам ручнікі, а жанчынам хусткі. Самым блізкім кабетам пажадана было падараваць намітку (доўгі скрутак вузкага палатна, аздобленага пры канцах ва ўзоры; убор жанчыны завівалі на галаву ў свята, або калі ішлі ў царкву). У час запоін сем'і дэталёва абмяркоўвалі колькасць пасагу, які ўнясе маладая. Звычайна, гэта была зямля і карова.

Вяселле адбывалася ў нядзелю або ў святы. Пра падзею тройчы абвяшчалі ў царкве.

Дзень да шлюбу здзяйснялася абрадавая падрыхтоўка каравая. Каравай рыхтавалі ў сем'ях маладой і маладога. Дзеля гэтага ў хату клікалі дружак і маладзіц-каравайніц. Часам каравай выпякалі з жытнёвай мукі. Яго аздаблялі дванаццаццю шышкамі. Шышкі фармавалі з бярозавых галінак і абвівалі цестам. Ужо спечаны, гатовы каравай трэба было прыаздобіць барвенкам і верасам. Печыва, неслі ў царкву, каб яно асвячалася разам са шлюбам маладых. Каравай дзялілі між гасцей на заканчэнне вяселля, адной шышкай заўсёды абдароўвалі бацькоў. У ліку ганаровых гасцей быў музыкант, якому таксама давалі шышку.





■ Шлюб Алёны і Аляксандра



■ Бацюшка Паўло Дубянец і царкоўныя харысткі

Сучасныя караваі былі прыаздоблены салодкай глазурай ды цукровымі макамі і рамонкамі. А торт «чатырохпавярховік» — дружнай парай лебедзяў, павернутых да сябе дзюбкамі. Замест на вясельны стол іх хацелася паставіць у агародчыку ля штучнага азярца са штучным буслом.

* * *

Двое маладзенькіх прыслужнікаў спусцілі ўніз старую, масіўную жырандоль і запалілі на ёй васковыя свечкі. Марочнянская царква пабудаваная ў 1815 годзе. Звонку і ўсярэдзіне яна захоўвае рысы сакральнай архітэктуры ўніяцкага перыяду. У задняй частцы царквы адведзенае месца для арганаў. Частка ікон у характэрных абкладах. На сценах размешчаны дараваныя іконы, усе прыаздобленыя вышыванымі ручнікамі. Аднак найбольшы сюрпрыз чакаў мяне на хорах. Сёння складалі яго толькі дзве жанчыны, дыскант і альт. Аднак іх галасы напоўнілі ўвесь будынак. Жанчыны спявалі на архаічны манер, ад якога хацелася плакаць. Хоць сам вянец трываў 45 хвілін, здавалася, ён расцягнуўся па часы сярэдневякоўя. Урачыстасць моманту падбіла кранальная мова бацюшкі Паўло Дубянца. Ён гаварыў пра зменнасць лёсу і хрысціянскую пакорлівасць. Словы пранікалі душу, усе старэйшыя жанчыны ўцiралі слёзы. На канец маладыя прыаздобіў новым ручніком ікону Пачаеўскай Божай Маці.

Алёнка і Аляксандр — родам з Марочнянскай парафіі, на якую складаюцца дзве вёскі: Марочнае і Мутвіца. Разам, тысяча сто душ (трэцюю частку жыхароў складаюць пратэстанты). Алёнка яшчэ студэнтка педвучылішча, Аляксандр закончыў ужо вучобу і стаў працаваць у галіне маркетынгу. Што гэта значыць на Палессі? Ён дбае пра завоз тавараў у мясцовыя магазіны.

— А дзе пасля шлюбу будуць жыць маладыя? — спытала я.

— Як дзе? — маё пытанне прагучала недарэчна. — У сяле, на месцы.

Сёння, калі краінай ускалыхнуў эканамічны і палітычны крызіс, палескае сяло явіцца месцам дабрабыту. Гэта перш за ўсё таму, што людзі не адвучыліся карпацца ў зямлі і працаваць на гаспадарцы. Прафесійная праца гэта вялікі прэстыж і дадатковы прыбытак, спосаб на дастатак і добрае культурнае жыццё. Толькі дурань ірвецца ў горад!

Пасля вянца маладыя і госці паехалі гасцяваць у рэстаран. Вяселле завяршылася пад поўнач. У сяле панавала цішыня, быццам нічога тут і не здарылася.

* * *

А яшчэ сорак гадоў таму ў Залужжы Рыгора Яцуты такі рацыянальны і эканамічны план вяселля здаваўся абразай традыцыі. У яго сяле запрашалі на вяселле зранку ў нядзелю. Маладая ў вянку з мірту, у вясельным строі, разам з дружкамі ішла раніцай да сваякоў. Ад імені бацькоў і самой сябе яна прасіла ўсіх на вяселле. Калі па дарозе сустрэла дарослых аднавяскоўцаў, падыходзіла да іх, кланялася ў ногі і таксама запрашала на свята. Людзі віталі яе перададзеным з пакалення ў пакаленне звычаем. Яны бралі ў рукі акрайчык ніжняга адзення і дакраналіся яе вясельнага вянка. У знак традыцыі яшчэ сёння дзе-нідзе дружбанты адзяваюць белыя пальчаткі на далоні. Вясельныя госці сходзіліся на запрошаную гадзіну ды пасля раншняга застолля з маладой ці маладым — суправаджалі іх пад вянец у царкву. Калі царква знаходзілася ў іншым сяле, або далёка ад хаты, ехалі фурманкамі. Перад выездам вясельную фурманку тройчы абыходзіў бацька і абсыпаў жытам на шчасце.

Рыгор Яцута адзначае яшчэ адзін архаічны абрад з ручнікамі. Менавіта па колькасці прывезеных у скрыні ручнікоў ацэньвалі пасаг новай гаспадыні. Жанчыны развешвалі ўсе ручнікі на сценах. Адна жанчына з сям'і хлопца спецыяльна чапляла на калок ля печкі стары ручнік для выцірання рук. Яго мігам падмяняла свякроў і вешала на калок новы ручнік. У вясельным абрадавым саставе не магло абысціся без праверкі дзявоцтва маладой. На другі дзень пасля шлюбнай ночы на плот вывешвалі радно з адзнакай дэфларацыі — кроў на палатне сведчыла пра цнатлівасць маладой.

Калі я ў Марочным спытала пра апошні звычай, вяскоўцы іранічна ўсміхаліся і паціскалі плячыма:

— А я нэ знаю! — гаварылі. — У нас, відаць, такога рэжыму не было...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960